1"2003




# CD

СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА



## С Ы Н Т Э Т Ы К А



Ведаеш, даўно хацеў табе сказаць: мы - сынтэтычныя людзі.
Заўчора знаёмая прывезла з Кітаю пару касэтаў з тамтэйшай поп-музыкай. Я нёс іх дадому як найкаштоўнейшы скарб, разьлічваючы пачуць водгаласкі старажытнай цывілізацыі. Замест гэтага з дынамікаў заваліў звычайны сынт-поп. Джэй Ло найгоршага разьліву...

Сынтэтыка пачалася, калі твая мамка ўпершыню нацягнула капронавыя калготкі, а татка ў школьным ВІА перасеў з гітары на сынтэзатар "Электроніка". Мы ўпіталі яе зь дзіцячымі сумесямі, якія нам падсоўвалі замест матчынага малака. Менавіта таму мы не працягваем ногі ад ХТС, у нас няма алергіі на сынтэтычныя майткі, нас не выварочвае ад кетчупу з кансэрвантамі. Сіла звычкі!

Ведаеш, даўно хацеў табе сказаць: мы - сынтэтычныя людзі. І калі табе ўсё яшчэ хочацца натуральных пахаў, тэатру замест галівудзкіх блёкбастэраў і сэксу бязь лятэксу, паспрабуй час ад часу замяняць сынтэз аналізам, лічбавы гук аналягавым, а мясцовы джын-тонік - сокам. Варта быць натуральным.




СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА

## знойдзеш нас у гэтых месцах

- аўтобусы **"INTERCARS"** і офіс **"INTERCARS"** (Менск, пр. Машэрава, 19, оф. 1-6)
- крама **"LEVI'S"** (Менск, пр. Скарыны, 48)
- крама **"ПОДЗЕМКА"** (Менск, пр. Скарыны, 43)
- крама **"БУНКЕР"** (Менск, вул. Казлова, 14)
- крама **"CAMELOT"** (Менск, пр. Скарыны, 44)
- крама **"МИСТЕРИЯ ЗВУКА"** (Менск, вул. Няміга, 12)
- ГЦ **"ПАРКИНГ"** (Менск, вул. Куйбышава, 40, крама "FUJIfilm")
- крама **"ПЕРАХОД"** (падземны пераход каля ГУМа)
- крама **"КОМПЬЮТЕРНЫЙ МИР"** (вул. К.Чорнага, 31)
- інтэрнэт-клюб **"iPOINT"** (вул. Румянцава, 15)


**СТУДЭНЦКАЯ DУМКА #1 (85) 2003 г.**

**Заснавальнік:** грамадзкае аб'яднаньне "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў"
**Выдавец:** рэдакцыя "Студэнцкай Думкі"

**Галоўны рэдактар** Ірына Віданава

**Рэдактары**
Мікола Шакель /mikalaus@hotmail.com/
Сяргей Сахараў /2ss2@tut.by/

**Камэрцыйны дырэктар**
Аляксандар Казлоўскі
/alex-iskander@mail.ru/
/па пытаньнях рэклямы - 8 (029) 626-69-36/

**Стыль і карэктура**
Алесь Кастыка

**Вёрстка** achuma_group

**Дызайн вокладкі** vitaminv

**Адрас рэдакцыі:** вул. Дарашэвіча, 4-2, 220013, г. Менск
**Тэлефон рэдакцыі:** (017) 213-22-19
**Пэйджэр:** 206-75-75, абанэнт "DУМКА"
**Адрасы для допісаў:** 220030, г. Менск-30, п/с 90
studumka@tut.by
www.studumka.com

Часопіс выходзіць з 1924 г. Зарэгістраваны ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь. Пасьведчаньне № 1296 ад 13.04.1999 г.

Меркаваньні аўтараў часопіса не заўсёды супадаюць зь меркаваньнем рэдактара і рэдакцыі. Нягледзячы на тое, што ў працэсе падрыхтоўкі нумару фактычныя дадзеныя строга кантралююцца, рэдакцыя не нясе адказнасьці за дакладнасьць апублікаванай інфармацыі, а таксама за рознага кшталту наступствы, зьвязаныя з апублікаванымі матэрыяламі.





Друкарня ТДА "НоваПрынт".
Ліцэнзія ЛП № 285, выдадзеная Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусь 28.07.1998 г.
Фармат 60x84 1/8
Папера афсэтная 80 г/м²
Падпісана ў друк 19.01.2003 г.
Замова № 455
Наклад 3300 асобнікаў
Кошт свабодны

# ЗЬМЕСТ
































## Flashback 2003

Брыдкаслоўе - ня нашая песьня, але ня можам не далучыцца да віншаваньняў прамоўтэраў самай-самай Сыльвэстар-паці ў Менску, зьмешчаных на адным небезьвядомым форуме ўжо 1 студзеня: "~~Флэшбэк 2003~~ - ~~ё..~~ вашу маць (цытата), даўно мне (а па вялікім рахунку, усім нам - CD) так добра не было!"

Дзікая радасьць, якая ахапіла ўсіх клюбэраў напрадвесьні 2003 году, вытлумачальная: у мінулым годзе Flashback стаў паролем да сыстэмы аховы дзьвярэй шчасьця, пошукамі якога займаецца менскі актывіст вось ужо дзесяць год (пра гэта чытай ніжэй). Flashback з пазнакай "2003" ня проста апраўдаў ~~усе~~ (апошняе слова варта падкрэсьліць) спадзевы, але і даў надзеі на лепшае.

Форс-мажор падкрадаўся. Паводле арганізатараў, яшчэ 29-га сьнежня зімовае сонца халодна грэла ўсіх, апрача прамоўтэраў з ~~Jet Sounds~~: адміністрацыя ~~ТМК~~, як той аліґатар зь вершаванага тэксту ~~Чукоўскага~~, вырашыла праглынуць і сонца, і шчасьце клюбных геданістаў. Але сіла пазытыву пераадолела перашкоды - роўна ў 23:00 31 сьнежня вечарына стартавала.

Дзяліцца ўражаньнямі - справа няўдзячная, але ў нашым выпадку, калі яны агульныя для больш як трохсот чалавек, мы рызыкнем. Падаецца, у Менск вярнуліся старыя добрыя часы тых вечарынак, дзе весялосьць і неперадузятае стаўленьне да калегаў па танцполе - рэчы апрыёрныя. Шок ад асэнсаваньня гэтай забытай ісьціны трымаў усіх актывістаў Флэшбэку да канца вечарыны. Далібог, ~~vox populi~~.



## American Music Awards

Зорка ~~Эмінэма~~ - у зэніце. Так вырашыла журы прэстыжнай прэміі ~~American Music Awards~~ і задаволіла ўсе чатыры намінацыі, па якіх высоўваўся рэпэр. Сам герой



моцна не выпінаўся і абмежаваўся роляй назіральніка, чужаніцы, псэўда-боства, калі хочаце: усе прызы па намінацыях "Лепшы рок-выканаўца", "Лепшы рок-альбом", "Лепшы выканальнік хіп-хопу і R&B ", "Лепшы альбом у стылі хіп-хоп і R&B " атрымліваў яго "дружбан" ~~Мэкі Файфэр~~.

Надаючы дэманічную значнасьць свайму пратэжэ, містэр Файфэр выйшаў на сцэну з мабілай у руках і зайшоўся экстатычным енкам: "Гэй вы! Там - Эмінэм, і ён нас чуе!"

Ролю нанятага вар'ята з посьпехам выконваў ~~"зорка"~~ тэлесэрыялу ~~"Озбарны"~~ - ён жа старэйшы. Озі выразы не выбіраў, і часта замест сьпічаў гучэлі пранізьлівыя ~~"пі"~~. І зразумела: з самых заўважных і заслужаных аказаліся ~~Нэлі і Ашанці~~ - першы як "любоў публікі", другая - як "лепшы дэбют".

Дарэчы, намінантаў American Music Awards адбіраюць, зыходзячы з аб'ёмаў продажаў. Канчатковага пераможцу вызначаюць галасаваньнем 20 тыс. слухачоў.

Плач, беларускі ~~шоў-біз~~!...





## Калядная

Тое, што вы бачыце - не запрашэньне на дыскатэку ў ДК г/п Пружаны (Бараўляны, Мядзел), але сьведка гісторыі, пасьведчаньне аб нараджэньні. ~~25 сьнежня~~, у Дзень народзінаў Хрыста, у Менску нарадзілася тое, што пазьней стануць называць ~~"клюбнай культурай"~~. ~~Дзесяць год таму~~ першыя рэйвэры сабраліся ў лёгкаатлетычным манэжы спорткомплексу ~~"Дынама"~~, каб прайсьці ініцыяцыю, ад пачатку да канца, з 23 да 7 раніцы. Восем гадзінаў зьмянілі ня сьвет, а маладых людзей, якія зразумелі, што ~~"шчасьце ёсьць"~~, у тым ліку ў Менску. Пазьней былі ~~"Зодчие"~~, ~~"Альтэрнатыўны тэатар"~~ і ~~"Вольная сцэна"~~.




І людзі, людзі, людзі. Дыск-жакеі, прамоўтэры, клюбэры, ахова, бармэны, гардэробшчыкі... Ступень удзелу кожнай з адзначаных катэгорыяў дакладна ня вывучаная, але эмпірычна зразумелая.

Мы памятаем пра вас, першыя клюбэры...

артэфакт - http://www.flyer.diskoteq.com/

## Санта Кляўс. - састарэлы пэдафіл

Такое ўражаньне, што менавіта ён штогод у часе калядных вакацыяў пазбаўляе цнатлівасьці мільёны амэрыканскіх падлеткаў. Сутнасьць так званага ~~"Santa Claus effect"~~ у наступным. Дзесяць год (!) дасьледаваньняў, што ладзіліся ў ЗША супрацоўнікамі Ўнівэрсытэту Місісіпі, выявілі: значная колькасьць тынэйджэраў запамінае Каляды зусім ня дзеля вяночкаў на дзьвярах. Менавіта ў гэты час яны ўпершыню ўступаюць/ініцыююцца/уляпваюцца ў тое, што старыя бз*уны звыкла называюць ~~teen-sex~~. Кіраўнік дасьледніцкага праекту доктар ~~Мартын Левін~~ бажыцца, што гэткія дадзеныя атрымаў шляхам апытаньня 21.000 школьнікаў. Між іншым, даклад Левіна сам па сабе зьяўляецца знакавай для сучаснай навукі штукай: ён быў адмыслова прымеркаваны да надыходзячых Калядаў, а пад заслону, нібы між іншым, аўтар выразіў упэўненасьць, што пры наяўнасьці фінансаваньня яго дасьледчая група і надалей будзе займацца вывучэньнем фэномэна Санты.



Нам бы, дзядзі, вашыя ~~problems~~. Але нічога, дай ты яму, Джорджы, гранцік: чым бы дзіця ні цешылася, абы не ўфалёгіяй.

## Beautiful & стрэнджэр



Прыгажосьць - катэгорыя вечная, непадуладная ні гадам, ні стагодзьдзям. Больш складана з талентам.

Мадэль ~~Кляўдыя Шыфэр~~, якая зь пераменным посьпехам, але ня першы год трымае відэа-ангажэмэнт у фітнэс-шоў, вырашыла выйсьці на вялікі экран разам з уласным, крыху менш запатрабаваным індустрыяльным бізам мужам ~~Мэцью Вонам~~. "Ссохнуўшы" па кіназдымках, Кляўдыя выступіць у якасьці лябарантгкі на рэжысэрскім дэбюце Мэцью. Завязка ў наступным: "Гэта будзе кароткамэтражная вэрсія гісторыі пра ~~Беласьнежку~~. Вон будзе і рэжысэрам, і сцэнарыстам, - паведамляе самы рэйтынгавы лёнданскі таблёід Sun. - Стужка будзе вытрыманая ў стыл ~~gothic horror~~. Але ёсьць праблема: Шыфэр - адна з самых вядомых бляндынак сьвету".

33-гадовая Кляўдыя мела горкі досьвед кіназдымкаў: "Black and White", дзе яна сыграла з Робэртам Даўні-мл., "In Pursuit" і "Waiting for Genevieve", - таму готыка можа стаць для яе сапраўдным шанцам справай апраўдаць свае двухгадовай даўніны заявы пра тое, што яна пакідае подыюм дзеля кіно.

Другая топ-німфа - ~~Надзя Аўэрман~~ - вырашыла, што мадэлінг ёсьць жыцьцём, і варта яго працягваць, нават штучнымі мэтадамі. Героем яе раману стане Wonderbra, у рэкляме для якой яна зьбіраецца зьняцца. Прадстаўнік Надзі мяркуе, што рэклямная кампанія будзе зусім клясычнай, а фотасэсіі - раскошнымі. Пакуль эстэты настальгуюць, зазіраючы ў новы нумар ~~Vogue~~, для якога Аўэрман пасьпела папазіраваць.

# КУЛЬТАВЫ BEL.NET ДЛЯ НЭАФІТАЎ

тэкст: Аліса Бізяева

**"Беларускі інтэрнэт разьвіваецца, хоць і марудна" – някепская заява для пачатку аднаго з загалоўных матэрыялаў тэмы. Гучыць фатальна, але з пэрспэктывай. Асабліва калі паспрабаваць уціснуць усю гісторыю белнэту ў адзін невялікі артыкул. Мінула больш за 10 год ад рэгістрацыі ў Беларусі першага вузла электроннай пошты, і больш за пяць – ад зьяўленьня першых сайтаў у нашым сеціве. І з вышыні гэтых гадоў дынаміка разьвіцьця выглядае на добры галоп.**

## 01 архівы

Кожнае "пакаленьне" карыстальнікаў беларускага сеціва лічыць культавым адметны пэрыяд жыцьця белнэту. Тут хутка сталееш - які-небудзь год пройдзе, і ты ўжо не навічок, а дасьведчаны спэцыяліст і глядзіш на нэафітаў паблажліва, узгадваючы, "як добра было ў даўнія часы". Раней сусьветнае павуціньне прываблівала энтузіястаў, людзей, якія гатовыя былі перш-наперш аддаваць - тады не было чаго і браць. Але час вымагае зьменаў. Намеры новых людзей, што далучаюцца, сапраўды становяцца больш мэркантыльнымі.

Настальгічную сьлязу высякаюць з вачэй акамянелага ад часу твару згадкі пра гарачыя гутаркі на дыскусійнай дошчачцы NSYS, зь якіх самыя вядомыя форумы "BYnet - усе супраць усіх", "Ці любяць дзяўчыны праграмэраў?" і, вядома ж, "Гендэрны фронт", які навучыў усіх беларусаў слову "дыскурс" і які сапраўды можна назваць культавым. Яго карыфэі, беларускія культуролягі і філёзафы, пазьней стварылі яшчэ больш элітарны праект - альманах Klinamen.com з мэмарыяльнай рубрыкай "Гендэрны фронт". Форуму больш няма, а ён шмат для каго быў школай віртуальнага моўнага жыцьця! Але і зараз прывід яго лунае ў паветры беларускага сеціва, то там, то тут бразгаючы ланцугамі.

Некаторыя і цяпер узгадваюць той недалёкі час, калі свае напаўсатырычныя-напаўсур'ёзныя выпускі рэгулярна рабілі вэб-аглядальнікі Мікалай Лапушка (dfpoint.nsys.by), Дзяніс Марголін (margolin.virtualave.net), Янук Латушка (dt.home.by, Сьцежкамі Белнэту). Трапіць у агляд df было пашанай, Марголіна баяліся за яго зьедлівасьць, а Латушка проста весела сьцябаўся з таго, што адбывалася.

Самыя ўзьнёслыя выпускі аглядаў былі прысьвечаныя Сьмерці Фанаткі - віртуальнай легенды белнэту. Водгукі яе прыгонаў былі чутныя нават за межамі беларускага сеціва. Для гісторыі захаваліся вершы й шчыраваньні ў сецявым дзёньніку (dfpoint.nsys.by/gerl), што апісвалі яе зносіны, у тым ліку сэксуальныя, з самымі вядомымі віртуаламі сеціва. Фанатка была прызнаная каралева сеткавага флэйму, яе любілі, яе ненавідзелі, яе баяліся.

Пазьнейшыя спробы ствараць віртуальных пэрсанажаў не выклікалі такой цікавасьці ўсёй нэт-аўдыторыі. Пасьля трагічнай гібелі Фанаткі (яе забілі ва ўласным маёнтку і пакінулі ў ванным пакоі. Матэрыялы сьледзтва глядзіце на сайце) паўтарыць подзьвіг віртуальнай куртызанкі ўзялася новая анімэ-гераіня Esmeralda (www.geocities.com/by_esmi/ralda).

Мілая Эсьмі, сьвядомая беларусачка! Мы памятаем, як ты размаўляла цытатамі з тэкстаў беларускіх рокераў, любіла Адама Глёбуса і супрацоўніка нейкага "альтэрнатыўнага сакрэтнага, а не кацапскага" Камітэту Дзяржаўнай Бясьпекі.

Яшчэ пазьней заняць сваё месца ў віртуальным княстве спрабавалі Кібэрбурбалкі (ck.litara.net), дзеля чаго абралі даволі незвычайны шлях. У газэце "Человек&Internet" яны надрукавалі амаль тры дзясяткі нэт-гісторыяў, дзе апісвалі свае незвычайныя вопыты. Як у прабірку, у інтэрнэт яны зьмяшчалі розныя зьявы рэчаіснасьці, а потым назіралі, што атрымаецца. Вынікі былі нечаканымі нават для самых гераіняў і заўсёды давалі цікавыя сюжэты для новых лінгвістычных вычварэньняў. Кібэрбурбалкі склалі "Дэманалёгію інтэрнэту", дасьледавалі яго сэксуальнасьць, вучылі гадаць на пошукавай сыстэме, распавядалі пра сайты, якіх няма, пра сайты, якія самі сябе ствараюць, і пра сайты, што засяляюцца ў людзей.

Каго толькі не было сярод "бюванцаў"! Складаныя ўзаемаадносіны паміж імі цягам некалькіх месяцаў літаратурна апрацоўвала і распавядала цікаўным Лена Носава ў Бюванскіх Кроніках (by.tut.by). Гэта была яшчэ адна спроба ўцягнуць усё беларускае інтэрнэт-грамадзтва ў адзін фільм з прыгожай назвай "Краіна Бюванія", якая то гасьцінна прымала новых грамадзянаў, то пагардліва адмаўляла ім у рэгістрацыі. Ясна, што героі штодзённых выпускаў сваёй рэакцыяй у "Гебуке" (гасьцявой кніжцы) актыўна ўплывалі на далейшае разьвіцьцё падзеяў.

Лягічным завяршэньнем існаваньня Бюванскіх Кронікаў сталі выбары сэкс-сымбалю байнэту. "Пасаду" атрымала Саша Сьнегіна, вядучая "Віртуальнага сьвету" на ТБ.

Тут жа, дзеля нашчадкаў, узгадаем першы (адзіны... ) Беларускі Інтэрнэт-Фэстываль (www.bif.by) 2000 году. Хочацца верыць, што гэта быў сапраўдны штуршок да актыўнасьці стваральнікаў сайтаў - прынамсі, новай забаўкай для беларускіх віртуалаў ён стаў дакладна.

## 02 сучаснасьць

Беларускае сеціва трымаецца на зносінах унутры віртуальнай суполкі, якая і стварае асноўныя падзеі.

Ясна, для таго, каб віртуальнае жыцьцё кіпела, неабходныя таленавітыя людзі, што трымаюць на сабе асноўны натоўп і правакуюць дыскусіі. Такіх па пальцах можна пералічыць (у Расеі, кажуць, за прафэсійны "разагрэў" гутаркі на форуме, як за любую іншую раскрутку, даводзіцца плаціць). І культавымі становяцца тыя сайты, што падрыхтавалі дыскусійныя пляцоўкі і здолелі прывабіць цікавых людзей для віртуальнай гутаркі.

Калі праект сабраў вакол сябе аўдыторыю, яму неабходна і далей падаграваць яе актыўнасьць. Белнэт перажыў свой "партальны" бум, калі кожны імкнуўся назвацца парталам і задаволіць інтарэсы і густы адразу ўсіх, меў ён на тое рэсурсы ці не. Зараз дабіваюцца посьпеху ня масавыя, а тэматычныя сайты.

Да такіх адносяцца папулярная віртуальна-рэальная гульня "Схватка" (cx.by) і Streetracing у Беларусі (www.streetracing.by).

Адзін з самых буйных па колькасьці наведваньняў - рэсурс Onliner.by, прысьвечаны найактуальнейшаму - мабільнай сувязі, чым і можна патлумачыць яго вокамгненнае разьвіцьцё. На форумах тут - раздольле: можна папарыцца як у бок МТС, так і ў бок VELCOM, знайсьці некалькі дзясяткаў прыхільнікаў/праціўнікаў, а пасьля пагаманіць пра аўтамабілі, кампутары і каханьне.

Сайт для дарослых гетэрасэксуалаў Belarusadult.com - пакуль адзіны беларускі рэсурс, дзе можна ня толькі малюнкі паглядзець, але й пачытаць нешта на эратычна-сэксуальна-мэдыцынскія тэмы. Адзін з вастранькіх цыкляў публікацыяў, якія можна знайсьці ў архівах, прысьвечаны тэме, дзе можна займацца гэтым з апісаньнем самых недарэчных месцаў (напрыклад, гаўбец шматпавярховіка. Хаця...). Яшчэ адзін папулярны матэрыял, напісаны, можа, з год таму, але да якога і зараз зьвяртаюцца - "Інтэрвію з прафэсіяналкай".

Чамусьці папулярных сайтаў для людзей з гомасэксуальнымі схільнасьцямі значна больш: apagay.com, britva.gay.ru, lesbi.by.

Аматары белроку гамоняць на афіцыйным сайце N.R.M. (nrm.home.by) і наведваюць Рок-гільятыну gil.tut.by, якая штогод ушаноўвае памяць найгоршых гуртоў, самых адстойных песень ды кліпаў і самых адмарожаных музыкаў. Клюбэры ў сеціве таксама прысутнічаюць - напрыклад, на сайтах mixtura.org і www.minsk-off-air.com.

2002 г. стаў часам тых праектаў, якіх даўно чакалі. Вартая ўвагі спроба стварыць беларускамоўны інтэрнэт-часопіс для моладзі Farba.net. Пераадолець канкурэнцыю расейскіх сайтаў такога кшталту няпроста, і падаецца, тут трэба брацца за справу больш сур'ёзна.

Фармаваньне вэб-кам'юніці беларускіх пісьменьнікаў і аматараў беларускай літаратуры распачала найбуйнейшая электронная бібліятэка Knihi.com, дзе захоўваюцца тэксты беларускіх клясыкаў і сучасных аўтараў. Да гэтай справы далучыўся яшчэ адзін рэсурс - інфармацыйны сайт Litara.net, на якім у рэжыме рэальнага часу ствараюцца новыя мастацкія тэксты, а часам адбываюцца жорсткія спрэчкі й нават віртуальныя бойкі. У кожнага "літаранца" свой пазнавальны твар. Адам Глёбус - найвядомейшы беларускі пісьменьнік - на Літары сапраўдны гаспадар: ён адкрывае новыя рубрыкі, падштурхоўвае да стварэньня Лірыкі, Хайку, Грэгерыяў, прыцягвае на сайт сваіх сяброў і непакоіцца пра папулярнасьць, рыхтуючы разам з братам Міраславам цэлую сэрыю flash-ролікаў пра Пацука. Дон - вартавы сабака беларускай літаратуры, які асьцерагае яе ад непісьменнасьці й няздатнасьці.

Калі вас цікавіць колькасьць белнэт-залежных, зьвярніцеся да старонкі stan.akavita.by, дзе пададзеныя матэматычна-аб'ектыўныя лічбы, што да колькасьці і складу наведнікаў беларускага сеціва. Але ці варта займацца падлікам, калі і так відавочна: колькасьць людзей, якія бываюць у інтэрнэце, значна меншая за колькасьць тых, хто пра яго гаворыць, каму ён падаецца цікавым і хто ў хуткім часе абавязкова далучыцца. Беларускі ж інтэрнэт разьвіваецца, хоць і марудна.

# НЕАРГАНІЧНЫ ЭКСТАЗ

тэкст: marujka

Невялічкі артыкул пра "кіслату"?! З такім жа посьпехам рэдактар мог папрасіць пінгвіна напісаць эсэ пра трапічныя архідэі. Бо што можа сказаць пра сынтэтычныя наркотыкі паненка, якая купляе выключна баваўняную бялізну ад Serge і наркотыкі ў натуральным выглядзе бачыла толькі на бабульчыным гародзе (мак, каноплі...). Хаця ў нечым рэдактар меў рацыю: недасьведчанасьць у хімічных формулах дазваляе не занурацца ў падрабязнасьці й разглядаць CH як фэномэн сучаснай культуры. Бо, як ні прыкра гэта канстатаваць, у наш час адвечная спрэчка ідэалістаў і матэрыялістаў мусіць быць скончаная: у аснове быцьця ляжыць матэрыя, прычым менавіта сынтэтычная.

## Е

Ахвочыя маркаваць кожнае новае пакаленьне асобнай літарай для найноўшага абіраюць менавіта гэтую. Пакаленьне Е - так часам называюць тых, хто ўжывае экстазі (XTC, love drug). Наўрад ці імя ім легіён, аднак спэцыялісты дэпартамэнту Эўраполу па барацьбе з наркотыкамі зуб даюць, што сёньня гэта каля 20% моладзі аб'яднанай Эўропы.
Нямецкі фармаколяг, які ў 1912 годзе ўпершыню сынтэзаваў экстазі, хацеў як лепей. Новае рэчыва было запатэнтаванае як лекі, што спрыяюць зьніжэньню апэтыту. Навуковец гэты, відавочна, памёр у шчасьлівым няведаньні плёну справаў сваіх, бо час Е прыйшоў не адразу. Пачатак XX стагодзьдзя - эпоха багемнай кокі й народнага опіюму. Накакаіненыя паненкі з чырвонымі вачыма ў інтэр'ерах стылю мадэрн, жаўнеры Першай Сусьветнай, якія вяртаюцца ў родныя вёскі, падсаджаныя на морфій зычлівымі анастэзіёлягамі ў франтавых шпіталях, гашышны дым з тавэрнаў у лёнданскім порце, Шэрлак Холмс грае на скрыпачцы... Пасьля былі 60-я. Гіпі. Марыхуана і ЛСД з трывалай рэпутацыяй рэчываў, што пашыраюць сьвядомасьць. Аднак нават самыя псыхадэлічныя з наркатычных відзежаў не маглі прадказаць дзецям красак і сунічных палёў, якімі вырастуць іх дзеці. Марыхуана схіляе да сузіральнасьці, запавольвае час і зьмяняе прастору. У канцы 90-х гіпі - тормаз, які не пасьпявае за рытмам жыцьця (140 удараў у хвіліну).



У Эўропе і Амэрыцы экстазі ўвайшло ў моду напрыканцы 80-х і адразу зрабілася неад'емнай часткай клюбнай культуры, абавязковым атрыбутам techno&house-party, адным з кампанэнтаў сынтэтычнай эстэтыкі мяжы XX і XXI стагодзьдзяў. Менавіта праз экстазі "піпл", "мьюзік" і "ды-джэя" ахрысьцілі кіслотнымі.
У малекуле экстазі зьміксаваныя амфітамін і мэскалін. Першы аказвае ўзбуджальнае ўзьдзеяньне на арганізм і дазваляе шалёна скокаць пад рэйв цягам усяе ночы; другі надае адчуваньне бязьмежнага шчасьця, уводзячы ўжывальніка ў стан эўфарыі (такі эквівалент "ста грамаў перад танцамі" - трывалай рысы беларускай рэчаіснасьці).
У прынцыпе, каўтаньне таблетак у клюбе - зусім не абавязковая ўмова ўдзелу ў начным сьвяце. Проста разьмяняць зялёныя паперкі на каляровыя кружочкі - значыць прадэманстраваць добры густ і веданьне рытуалаў адцягу. Бо экстазі - гэта перадусім раскручаная гандлёвая марка зь велізарнай target group і граматна пастаўленай рэклямнай кампаніяй. Сама назва Ecstasy (анг. экстаз, унясеньне) ня надта падыходзіць для такога сацыяльнага ліха, як наркотык, але як брэнд гучыць вельмі ўдала. Ecstasy зрабілі сынонімам панятку life style, а апошні ў сучаснай цывілізацыі - прадмет першай неабходнасьці. Таму ня дзіўна, што экстазі - самы рэнтабэльны тавар эўрапейскага наркарынку. Што да Беларусі... Падазраю, што кіслата, якой грузіцца нашая моладзь, паходзіць адтуль жа, адкуль і зялёнка, якой некалі фарбавалі валасы тутэйшыя рэйвэры - з "аптэкі за рогам".

## ТАКСАМА СЫНТЭТЫКА

Пэрвэртын (больш вядомы як "вінт") і эфэдрон (ён жа "мулька", "джэф", "марцыфаль") сынтэзуюцца з эфэдрыну - алькалёіду, які выцягваюць зь лісьця расьліны эфэдра. Гэта самыя цяжкія з сынтэтычных наркотыкаў: па моцы ўзьдзеяньня пераўзыходзяць гераін. У прыватнасьці, вінт за апошнія гады набыў шалёную папулярнасьць. У адрозьненьні ад гераіну, яго лёгка сынтэзаваць у хатніх умовах. Чым і займаецца ня першае пакаленьне тутэйшых хімікаў-аматараў.
Месца дзеяньня гэтай сынтэтыкі - ужо не асьветленыя нэонам клюбы, а змрочны дэстрой спальных мікрараёнаў усёй постсавецкай прасторы. Абавязковы атрыбут - сьмярдзючы пад'езд: там, дзе вараць вінт, заўсёды патыхае ёдам, фосфарам і іншай хімічнай гідотай.
Культ вінта сярод моладзі ўражвае: многія эфэдрыншчыкі ня лічаць сябе наркаманамі і, прапагандуючы "бясьпечны кайф", актыўна падтусоўваюць сваіх сяброў. Альбо іншая крайнасьць - перакананыя "тырчкі". На такіх я выпадкова натрапіла ў расейскім сеціве.






## ВінтКлюб

Intro сайту абвешанае ўсімі неабходнымі засьцярогамі крымінальнага й маральнага характару. Аднак жывапісаньне жахлівых наступстваў ужываньня вінта вельмі падобнае да гімну незямным адчуваньням, недаступным іншым сьмяротным, няхай за іх давядзецца расплачвацца распадам уласнай пячонкі. У цэлым, усё тут супярэчліва і трохі агрэсіўна. Агульны патас - "не ламайце нам кайф, злосныя гномікі!" Старонкі маюць радыкальны фіялетавы колер, ад чаго праз тры хвіліны ў цябе пачынаецца глыбокая дэпрэсія. Незразумела, ці то гаспадары сайту лічаць гэты колер дужа псыхадэлічным, ці то так заўсёднікам лягчэй уявіць фіялкі (кажуць, што амаль усім наркаманам, абдзяўбаным вінтом, мроіцца пах гэтых кветак). Ведаючы, што наркатычнае ўзьдзеяньне пэрвэртыну доўжыцца каля дванаццаці гадзінаў, лёгка зразумець, чаму "вінтанутыя" не зусім адэкватна рэагуюць на зьнешнія раздражняльнікі. Улюбёная забава народу на гэтым сайце - вешаць на форумы артыкулы ў стылі "Не - наркотыкам!" і паабзацава іх абсьцёбваць.
Першая рэакцыя - пазачыняць гэтыя вокны назаўсёды й не замінаць мерцьвякам хавАць (хАваць?) сваіх мерцьвячкоў.

## МЭТАДОН

Пра яго гаворка будзе нядоўгай. Ён нічым бы не вылучаўся з плоймы гатункаў "кіслаты", калі б вакол яго актыўна не стваралі імідж салодкай цукеркі, здольнай замясьціць горкую пілюлю. Ён і некаторая іншая сынтэтыка ёсьць асновай "мэтадонавай праграмы", распрацаванай нарколягамі ЗША яшчэ ў 60-я гады XX стагодзьдзя. Сутнасьць яе ў "перасаджваньні" цяжкіх наркаманаў з апіятаў (кшталту гераіну) на больш лёгкія наркотыкі. Мэтадон удзельнікам праграмы выдаюць мэдыкі, што пазбаўляе гераіншчыка неабходнасьці рабаваць, каб здабываць наркотык, і робіць яго сацыяльна бясшкодным. Ва ўсёй гэтай гісторыі цікава вось што: француз Дрэзэ, які вынайшаў гераін у XIX стагодзьдзі, лічыў яго "адзіным, што можа хутка вылечыць марфіністаў".
Гісторыя паўтараецца: на практыцы МП не зьмяншае ўжываньне гераіну, але папаўняе шэрагі мэтадоншчыкаў. Мэтадонавая залежнасьць нашмат цяжэйшая за гераінавую, а сам наркотык - вельмі й вельмі таксычны. Кола замкнулася.

Human Traffic
the weekend has landed



## HUMAN TRAFFIC

Вялікабрытанія, 1999 г.
аўтар сцэнару й рэжысэр: Джастын Кэрыган
Джон Сім, Лёрэйн Пілкінгтон, Дэні Дайэр, Нікола Рэйнальдз, Шон Паркес

У 1999 - 2000 годзе фільм адарваў мноства ўзнагародаў на розных альтэрнатыўных кінафэстывалях за тое самае, за што кансэрватыўная партыя Вялікабрытаніі катэгарычна яго асудзіла. Малады рэжысэр Дж.Кэрыган стварыў яркі, дынамічны аповед пра жыцьцё свайго асяродзьдзя. Маўляў, вось яна, моладзь 90-х: вечарынкі, наркотыкі, сэкс, наркотыкі, мабілкі, наркотыкі, наркотыкі... Кліп па матывах жыцьця шараговага эўрапейскага маладзёна: пяць дзён на тыдзень хлопец/дзеўка паслухмяна ішачыць у офісе/парыцца на парах ва ўнівэрсытэце, чакаючы week-end'у, калі нарэшце ён/яна зможа адарвацца. І без усялякага маралізатарства (у сэнсе, ніхто напрыканцы не памірае ад перадозу). Зь іншага боку, Кэрыган сам сабе пярэчыць: кіслотны сьвет, у які героі бягуць ад шэрых будняў - ці не такая самая рутына? Кожныя выходныя - адно й тое ж...
Тых, хто глядзеў, прабілі развагі на тэму "ў Зорных Войнах - усё пра наркату", а таксама перадача "Гадзіна касяка".

# Ксяндзы Менскага Clubbing'у

God is a DJ. Фраза, ад якой павявае бяздоньнем вечнага сусьвету і вузкалобым teen-ідыятызмам. "Clubbing - новая рэлігія" - гучыць хутчэй патворліва-зьедліва, чым паважна. У эпоху разьвянчаньня ўсіх часовых культаў толькі Госпад Бог - адвечная каштоўнасьць. Дыск-жакей, які б таленавіты ён ні быў, прэтэндуе хіба што на ролю дэміурга-стваральніка, але не сусьвету і homo, а музыкі і настрою - дабрыні, любові, каханьня. Ужо нямала.
У такім разе Саша Касач і Вадзім Кудрашоў - прадусарскі цэнтар JET SOUNDS Cosmic Corp. - прававеднікі, такія ксяндзы клюбнай культуры. Пафас у нашым выпадку толькі адцяняе значнасьць таго, што робяць Касач з Кудрашовым цягам апошніх сямі год для Менску. Пазытыў - аснова любой рэлігіі - выходзіць з катакомбаў да людзей.

## JET SOUNDS

## у профіль і анфас

пытаньні: андрэас копыс

**АК:** Як мы да гэтага дакаціліся...
У 1994 годзе я браў удзел у міжнародных абменах з Галяндыяй, якія арганізоўваў Лёша I Feel You. Падчас адной з паездак я пазнаёміўся з ды-джэем Ярыкам. Праз пэўны час Ярык і Лёша Конь запрасілі мяне сваім прамоўтэрам. Тады, у эпоху Switch Club, у іх не хапала такога адміністрацыйнага зьвяна. Тым больш, людзі творчыя, трошкі расслабленыя, а я ў арганізатарскіх справах быў чалавекам дасьведчаным - ведаў, дзе трэба хадзіць, што трэба рабіць.
Таму дапамог ім сфармаваць структуру, накіраваў на больш шырокае рэкламаваньне акцыяў.
Касьцяк клюбэраў з таго часу такім і застаўся - прыкладна 200-250 чалавек, адно што людзі павырасталі. Ён складаўся з тэлефоннага сьпісу, па якім мы званілі і запрашалі людзей на акцыю. Квіток як каштаваў тады 5 даляраў, так і да гэтага часу кошты не зьмяніліся.

ВК і АК

**ВК:** Не, мяняліся, мяняліся. Улетку 99-га кошты ўпалі, людзі працавалі проста сабе ва ўбытак, прамоўтэры не заробляі ні капейкі, а дыск-жакеі атрымлівалі 20 даляраў, на якія можна было набыць 2 кружэлкі.

**АК:** Дык раскажы, як ты...

**ВК:** А, пра сябе?
Я ішоў да ўсяго гэтага незалежна ад Сашы, нічога ня ведаў пра Switch Club. Мне заўжды падабалася клюбная культура, ня ведаю чаму, але зь дзяцінства хацелася зрабіць дыскатэку (у сэнсе, клюб - раней гэта называлася дыскатэка). Недзе ў 11 клясе я падумаў: трэба зарабляць самому. І прыйшоў да высновы, што ў Менску няма ніводнага нармальнага месца, дзе б людзі маглі адпачываць.
Атрымалася так, што ды-джэй Ярык, ды-джэй Конь, ды-джэй Эйс жылі ў мікрараёне Ўсход, там жа, дзе і я. Неяк першы раз я трапіў на "руханьне" ў клюб "Пілёт", ня памятаю, гэта быў, па-мойму, нейкі чарговы летні фэстываль, арганізаваны пры ўдзеле Сашы Касача, Ярыка і Каня. Там мы зь імі ўбачыліся, пазналі адзін аднаго па тварах - жылі ж у адным раёне. Яны даведаліся, што я працую на паліграфічным прадпрыемстве, а ім патрэбная была рэкляма. Вось на гэтым мы і сышліся. Пасьля ўсё закруцілася, і мы з Сашам сталі прамоўтэрамі.

**АК:** Нас было чатыры чалавекі - я, Вадзім, Конь і Ярык.

**ВК:** У дадзеную сэкунду мы працуем зь Лёшам Юмашавым, які Юма, - вядомы менскі пэрсанаж. Ён таленавіты чалавек, выдатны шоўмэн, і калі нам патрэбная падтрымка, мы заўжды зьвяртаемся да яго па дапамогу. Flashback'2003 мы рабілі зь ім.
Дарэчы, людзі думаюць, што мы хворыя на "манію вялікасьці". Але я магу патлумачыць, з-за чаго так атрымліваецца. На жаль, дагэтуль - і ў гэтым праявы беларускага мэнталітэту і беларускага бізнэсу - усё заўжды атрымліваецца ў апошні момант. Дыскатэка пачынаецца, людзі прыходзяць, а мы з Сашам два дні бегалі, усё рыхтавалі, таму на самой вечарыне знаходзімся ў такім стане, што на ніякія размовы не хапае сілаў. "Прывітаньне - прывітаньне" - і ўсё, сілаў больш няма. А так мы заўжды з усімі сябруем.

**За гэтыя гады як зьмянілася клюбная атмасфэра Менску?**

**ВК:** Хіба што колькасна. Раней клюбная культура была элітарная, а зараз у яе ўцягнулася больш людзей. Калі раней гэта было 250 чалавек, то зараз - тысячаў пяць.

**АК:** У прынцыпе нічога не зьмянілася. Людзям патрэбная нармальная музыка, нармальныя людзі навокал. Гэта нашыя прынцыпы: мы хочам, каб чалавек прыйшоў - і яму было прыемна, утульна, каб ён ня бачыў злыя, кепскія позіркі - карацей, бандыцкія морды.

**Які клюб у гэтым сэнсе ідэальны?**

**ВК:** У нас ні ў адным клюбе няма адпаведнай атмасфэры. Людзі павінныя прыходзіць і адчуваць сябе як дома.

**А больш канкрэтна...**

**АК:** Там мусіць быць атмасфэра шчасьця...

**ВК:** ...атмасфэра дабрыні. Бо калі заходзіш у любы менскі клюб, там пануе атмасфэра бабла, пантоў - кожны хоча паказаць, чаго ён варты.

**АК:** Там у людзей рэальна манія вялікасьці.

**ВК:** Ёсьць шмат складнікаў ідэальнага клюбу, я б нават не хацеў пра іх расказваць, бо лічу гэта нашай камэрцыйнай тайнай. Дасьць бог, у нас атрымаецца зрабіць свой клюб, і ўсе ўбачаць, што гэта такое.

**Недзе я чуў, што ўжо былі такія спробы?..**

**АК:** Колькі мы працуем, увесь час спрабуем зрабіць свой клюб. Аднаго разу дайшло да таго, што ў Старым горадзе было зьнятае памяшканьне на тры гады наперад, аплачаная арэнда, мы нават завяршылі праектныя работы. Былі ўкладзеныя немалыя грошы, і толькі дзякуючы "таварышчам" на адміністрацыйным этапе ўсё прыпынілася. Замест таго, каб сказаць "О, давайце, хлопцы, рэканструюйце гістарычны помнік", дзе плянавалася зрабіць клюб, бо мы зьбіраліся ўкладаць нармальныя - каля 150.000 - грошы, пачалося тое, сёе.
Пасьля ў нас была дэпрэсія, мы доўга нічога не рабілі, тым больш усе зьехалі зь Менску. Але праз колькі часу нам пачалі званіць людзі: "Калі вы будзеце штосьці-небудзь нармальнае арганізоўваць, а то надакучыла хадзіць на

адстой". Мы сабраліся і пачалі рабіць вечарынкі ў "Амадэі".

**Вы можаце назваць самыя пераломныя ў вашай дзейнасьці моманты?**

**АК:** Першае, з чаго ўсё пачыналася - тэхна. Switch Club, вечарынкі ў абсалютна непадрыхтаваных памяшканьнях - у фае ДК, на Станцыі юнага радыётэхніка на Макаёнка, на БТ. Пасьля адбыўся невялікі падзел: "Манатонік" захапіліся брэйк-бітам, тэйч-стэпам, а мы зь Ярыкам пад маркай Switch Club вярнуліся да хаўс-вечарынак. Першыя замахнуліся на Палац моладзі на Камсамольскім возеры - вечарынкі з прэтэнзіяй на размах, на супэрякасьць. А мы зь Ярыкам заўсёды былі прагматыкамі - "лепей сініца": імкнуліся рабіць якасныя хаўс-вечарынкі іншага маштабу.

**ВК:** "Манатонікам" пасьля стаў Юма, дзякуючы яму паўстала знакамітае "Арланда", у якім арганізоўваліся элітарныя вечарынкі, дзе распачалася эра эйсыд-джазу. Пасьля гэтага на адной з агульных сходак было прынятае рашэньне аб'яднаць "Манатонік" і Switch Club іператварыць усё гэта ў Dirty Pistols. У нас пайшла музыка хіп-хоп, біг-біт - тое, што называецца "скачкамі". Менавіта тады, летам 2000, адбылося нашае ўкараненьне ў моладзевы асяродак, тады нас пакінулі нашыя старыя таварышы, якія да таго часу стварылі першыя капіталы. Мы зразумелі, што нашая ніша - моладзь, бо зь ёй прасьцей за ўсё працаваць, ёсьць патэнцыял. "Дарослыя" так ня хочуць забаўляцца.

**ВК:** Пасьля Dirty Pistols у нас узьнік праект Freedom foundation - і мы вярнуліся ў "Арланда".

**Культавае месца...**

**АК:** Надакучылі нам за адзін год "скачкі", і мы вярнуліся ў "Арланда": зноў хаўс, хаўс-бразіл.

**ВК:** Пасьля жнівеньскага крызысу 1998-га быў самы складаны пэрыяд, які адчуваўся аж да 2000-га - дыскатэкі ладзіліся чыста на энтузіязме.
А вечарынкі для нас сталі жыцьцём, мы ўцягнуліся ў гэта. Пасьля Freedom foundation мы паехалі на "Казантип" - гэта было ў 20...




**АК:** ...00.

**ВК:** У 2000 - гэта зразумела, я проста хацеў расказаць, калі нас пакінулі нашыя таварышы. Проста пэрыяд крызысу неяк расьцягнуўся... Па-мойму, у 2001-м, пасьля чаргоавага "Казантипа", Ярык з Канём нам сказалі: "Мы разумеем, што тут усё крута, але трэба неяк існаваць, неяк зарабляць грошы, калі мы выбралі гэты шлях". Яны накіраваліся ў Маскву ў клюб "Территория", а пасьля Каня пераманілі ў Кіеў.
Мы засталіся з Сашам удвух, папераджвалі крыху, але зразумелі, што на нас ляжыць адказнасьць працягваць клюбны рух у Менску. Мы аб'ядналіся зь Юмам і ўтварылі цяперашнюю карпарацыю JET SOUNDS.
1 сакавіка мінулага году - дзень яе нараджэньня.

**У студзені 2003 году ты, Вадзім, заявіў пра намер зрабіць сваю, альтэрнатыўную Night Life Awards цырымонію ўзнагароджаньня за ўнёсак у клюбнае жыцьцё. У 2002 стала відавочна, што мы маем мінімум два сур'ёзныя сайты па гэтай праблеме – oxidiser.net і mixtura.org. У вас ёсьць маладыя канкурэнты, якія пачынаюць арганізоўваць свае вечарынкі. Пра што, на ваш погляд, сьведчыць такое разьвіцьцё падзеяў у клюбнай культуры?**

**АК:** Наяўнасьць альтэрнатывы - гэта заўжды добра. Зьявіцца шмат людзей, павялічыцца колькасьць публікі.

**ВК:** Тым больш у такіх варунках я заўжды магу адказаць на прэтэнзіі, быццам мы навязваем нашыя музычныя густы: калі вам не падабаецца вечарынка JET SOUNDS, калі ласка, ідзіце ў іншыя месцы. Толькі ня трэба мне парыць мозаг. На нас зараз валяцца абвінавачаньні, што мы праводзім палітыку Ярыка і Каня, больш нікога ня клічам. У гэтую сэкунду зьяўленьне такіх альтэрнатываў паказвае, што дадзеныя абвінавачаньні ня вартыя ўвагі.

**У вас, напэўна, ёсьць свае сымпатыі да тых ці іншых ды-джэяў, якіх вам хочацца прывозіць на свае вечарынкі?**

**ВК:** Неяк адмыслова мы не абмяркоўвалі гэтую тэму. Мы сфакусавалі сваю ўвагу на тройцы - Конь, Ярык, Юма. Ідзем па той, пратаптанай за сем год дарозе і "будзем несьці сьцяг" гэтых ды-джэяў.

**АК:** Яны прафэсіяналы, якія не стаяць на месцы.

**ВК:** Мы выраслі на іх музыцы, выхоўвалі свой густ на аснове іх густаў, мянялі свае погляды адносна іхных. Ня бачу сэнсу кідаць людзей, зь якімі дасягнуў нейкага посьпеху, і раскручваць іншых дыск-жакеяў.

**АК:** Калі неабходна, мы запрашаем іншых людзей, напрыклад, з Масквы ці зь Піцера. Зараз гэта больш складана - маскоўскі ды-джэй каштуе 600-700 баксаў.

**А ніколі не ўзьнікала пачуцьцё, што вы перарасьлі музыку Каня і Ярыка?**

**АК:** Не, гэта ўсё нармальна, it's OK... Галоўная тэза - яны прафэсіяналы: кожную ноч і адзін, і другі сядзяць у нэце, адшукваюць навінкі самых модных лэйблаў, і праз тры дні кружэлкі трапляюць да іх. Мы давяраем іх густу, мы ўскладаем на іх 100%-ую адказнасьць за музычную палітыку - гэта закладзена ў нашым вусным кантракце. Мы ж займаемся адміністрацыйнай працай.

**ВК:** Мы робім усё для таго, каб людзі іх любілі. І яны заслужылі гэтую любоў: я шмат разоў назіраў, як ды-джэй зводзіць кружэлкі, і ў яго цякуць сьлёзы, бо ён адчувае энэргію 500 чалавек, што весяляцца.



**АК:** Гэта супэр - ты бачыш тыя 500 душаў, іх шчасьце. Адзін рух - ты толькі падымаеш руку, і людзі адразу - "ААААААААА!!!"
Ня JET SOUNDS для нас бізнэс - і ў мяне, і ў Вадзіка ёсьць фірмы, дзе мы зарабляем грошы. Вечарынкі мы робім для людзей - і ў гэтым, я лічу, безумоўны наш плюс, для нас гэта не ператвараецца ў фабрыку па друку грошай.

**Вашыя прагнозы: што будзе папулярна ў Менску'03?**

**ВК:** Гэта ж усё карусэль: спачатку было дыска, лёгкі хаўс, а зараз усё паварочваецца так, што будзе актуальнай жорсткая і дып-музыка. Прынамсі, што тычыцца дыскатэкі 14 лютага: я ведаю, Юма будзе граць абсалютна новую музыку - дып, а Ярык прывязе свой новы праект - маскоўскага пэркусіяніста, які будзе граць драйвавую музыку.
Дакладныя прагнозы па музыцы немагчыма зрабіць, бо зараз у Менску зьявілася вялікая разнастайнасьць, можна знайсьці ўсё - ад тэхна да драм-н-бас.
Мы ж стараемся давяраць менавіта нашым хэдлайнэрам, і калі запрашаем іх на вечарынкі, то ведаем, што людзі пачуюць нешта цалкам новае.

**Ці прыходзяць да вас ды-джэі-"падросткі"?**

**ВК:** Яны прыходзяць да нас толькі як публіка. Я заўжды ім кажу: "Калі ласка, прыносьце нам свае касэты", - але дагэтуль такога не было. Ну я ж не магу паставіць на дыскатэцы за пульт некага: "А можна, я пайграю? - Хто я? - Я, ды-джэй Круты. - Ну, імя ў цябе файнае! Вось мой тэлефон, давай з табой стэлефануемся, запішы мікс".

**АК:** У нас зь Ярыкам даўно цыркулявала ідэя зрабіць сур'ёзную школу ды-джэяў. Нейкія патугі былі, і першым навучэнцам стала ды-джэй Даша Пушкіна. Але пра яе асобная гісторыя.

**На вашую думку, ці могуць быць крэатыўнымі рэгіёны?**

**АК:** Насамрэч, з рэгіёнамі ўсё ў парадку, асабліва зь Берасьцем і Гомелем. Берасьце блізка да Польшчы, і людзі ведаюць, якія на Захадзе стандарты. Берасьцейцы наагул нейкія больш свабодныя, раскаваныя. Гомель ужо даўно намі "пратараны", асабліва запомніўся апошні візыт, калі напярэдадні вечарынкі прыехалі







мясцовыя бандыты, перакрылі ўсе хады-выхады і хацелі мяне везьці ў лес.

**ВК:** Гэта зараз сьмешна, а тады... Заходзяць некалькі амбалаў у скураных куртках і пытаюць: "Гдзе здзес парні із Мінска?" Было крыху страшнавата, але Саша як супэр-прамоўтэр разабраўся з усімі.

**АК:** Увогуле, Гомель - асаблівы для нас горад, бо там шмат нашых знаёмых. Кожная вечарынка праходзіць супэр. Адносіны людзей? Уяві сабе, прыехала такое шапіто, цыганы ў вёску - для іх гэта такое шчасьце. Альбо вечарынкі на параходзе па Сожы...
Ведаю, што адзін наш знаёмы ды-джэй езьдзіў на вялікі - каля тысячы чалавек - рэйв у Магілёў. Міця раней часта езьдзіў граць у Віцебск.

**Калі б клюбнае жыцьцё ў Менску наагул не закіпела – вы можаце сабе ўявіць такую сытуацыю?**

**АК:** Яно б закіпела ў любым выпадку, бо яго можна было назіраць яшчэ ў савецкія часы - ужо тады былі тусоўкі. Вядома ж, гэта была ня тэхна-музыка, але ўсё адно. Прырода чалавека такая: ён хоча адпачываць, яму патрэбная весялуха, кампанія, актыўны адпачынак.

**ВК:** Калі сюды прыяжджаюць нашыя таварышы з Масквы, з Кіева і бачаць, як адбываюцца танцы ў нас, то ў іх робіцца вялікія квадратныя вочы. Для іх у Менску як запаведнік. З-за таго, што ў нас усё знаходзіцца ў такім паўзародкавым стане...

**АК:** Не ў паўзародкавым, а ў натуральным, разумееш, у на-ту-раль-ным!..

**ВК:** ОК, індустрыя забавы знаходзіцца ў паўзародкавым стане. Таму ўсе стараюцца выкладацца напоўніцу, а там, дзе гэта ўжо стала на шырокую нагу, то і людзям усё надакучыла.
У Менску ўсё захавалася так, як было - людзі весяляцца як нідзе больш. Гэта чыстая праўда.

**Шчасьце ёсьць – яно ў Менску...**

**АК:** Так. О, прапаную гэтак назваць артыкул. А што казаў Вадзім - чыстая праўда. І мы сапраўды любім Менск.

# КІБЭРПАНКІ

## ПЛЕМЯ ІНФАРМАЦЫЙНЫХ СЕТАК: ІНФАРМАЦЫЯ - СІЛА!



***Клік-клік клік клік-клік-клік***
Нашае жыцьцё - як вінчэстэр.

тэкст: Яззп дзін Альт



**По трапным выразе аднаго Ліцьвінскага Зубра, зараз тэрмін "кібэрпанк" прышпільваюць да чаго заўгодна. Мода, літаратура, музыка, мульцяшкі, манэра паводзінаў, сінэматограф. І ў крамах - купальнік фасону "кібэрпанк": чорны, "пад скуру", з надпісам "Access denied" за 24 у.а. Паўсюдна: кібэрпанк, cyberpunk, CP.**
**А калі праявы такія шматлікія, жанр перастае быць проста такім і робіцца культурнай плыняй. "Future - now!"**

**Тэрмін ** Кібэр з грэцкай - "кантроль". Вызначэньне "панку" адсутнічае, але ўсе і так разумеюць, пра каго ідзе размова.
Цяжка сказаць, на якой з калялітаратурных вечарынаў у адносінах да апавяданьня маладога Ўільяма Гібсана "Паленьне Хром" кінулі абразьлівае: "Ды гэта нейкі кібэрпанк!" Але ўсе памятаюць, што зрабіў гэта Гарднэр Дозуа, літаратар і амбітны рэдактар. Дозуа потым сьцьвярджаў, што выцягнуў гэты тэрмін з апавяданьня маладога Бруса Бэтке, якое той даслаў у яго часопіс.
Пана рэдактара апраўдвае толькі тое, што ён быў "трошкі выпіўшы".

**Хто такія CP ** Першапачаткова - усяго толькі плыня ў амэрыканскай фантастыцы. Напачатку 80-х ідэі пра чалавека, які з кампутарам ня проста "на ты", а "на я", лічыліся рэвалюцыйнымі. У хуткім часе называць сябе кібэрпанкамі сталі самыя маладыя фэны SF ва ўсім сьвеце, асабліва ў Японіі. Гэтая краіна як піянэр постіндустрыйнага грамадзтва становіцца Ханаанам кібэрпанкаў - перайначыўшы тэзу Хрушчова пра беларусаў, японцы першымі трапяць у будучыню. CP-сюжэты ўсё часьцей разгортваюцца на ляндшафтах гэтай азіяцкай краіны.
Між іншым, для жанру характэрнае апісаньне постіндустрыйных пэйзажаў у стылі "індастрыэл", дзе негарманічна, але непарыўна сумяшчаюцца "хай-тэх" і "лоў-тэх". То бок тэхналёгіі высокія, але шмальнуць з абрэза могуць.
Ня менш важнае пытаньне - узаемаадносіны паміж хакерамі і кібэрпанкамі. Сувязь бясспрэчная - менавіта рамантызацыя кампутарных злачынцаў сталася адной зь "фічаў" жанру, таму разнастайныя хакеры, крэкеры і сайфэр-панкі неабыякавыя да гэтай справы.
Сымбаль кібэрпанка - люстраныя акуляры: бліскучая абарона ад рэчаіснасьці, увасабленьне незалежнай індывідуальнасьці.

**Карані ** CP зьявіўся як літаратура генэрацыі, якая была выхаваная на кампутарах і філязофіі Тофлера. Ну і, зразумела, навуковай фантастыцы.
Альфрэд Бэстэр, Філіп Дзік, Сэмюэл Дылэйні - вось літаратурныя папярэднікі кібэрпанку, што яшчэ ў 1960-70-я выкарыстоўвалі напружаны трылерны сюжэт для апісаньня ўяўных культураў будучыні. "Новая хваля" SF паўплывала на фармаваньне жанру ня цалкам - яна стала сукупнасьцю літаратурных падыходаў і крытычнага стаўленьня да простага і шаблоннага апісаньня будучыні ў старой фантастыцы.
Праблема нават ня ў тым, як файна "чалавеку перасадзіць у галаву вылічальную машынку", а ў тым, якая культура будзе панаваць у грамадзтве, дзе жывуць, напрыклад, кібаргі з ЭВМ у галаве.

**Літаратура ** Для яе характэрная наяўнасьць у сюжэце нейкіх маргінальных, у контры з навакольлем, пэрсанажаў (яны могуць і шакаваць - адсюль, відаць, "панк"), плюс "лічбавы" фармат - кампутарныя тэхналёгіі ў самым паўсядзённым жыцьці; біяінжынэрыя, чалавек з кампутарнымі дадаткамі (кібарг) ці злучаны зь сецівам і інш. Галоўнае - не апісаньне тэхналёгіяў бліжэйшай будучыні, але псыхасацыяльныя зьмены, якія пры гэтым адбываюцца, страх перад будучыняй.
Сам Гібсан, гуру кібэрпанкаў, аўтар культавага "Нэўраманта", і сам быў з маргінальным душком - хаваўся ад вайсковага прызыву ў Канадзе, дзе пасьля і застаўся.
У CP-літаратуры пануе псэўдасумбурныя ірваныя сюжэт з гіпэрспасылкамі, часам - з плыняй сьвядомасьці (у адрозьненьні ад клясычнай SF), з постмадэрновымі гульнямі з часам, са злоўжываньнем слэнгу.
Кампутарная злачыннасьць, страх перад манаполіяй на інфармацыю, культурная рэвалюцыя з аднчасовым росквітам субкультураў і індывідуальных стыляў жыцьця - вось праблемы, якія турбуюць літаратараў-кібэрпанкаў.
І напрыканцы - антыгерой, што бунтуе супраць сьвету мэгакарпарацыяў, плыве супраць мэйнстрыму не з-за прынцыпаў, а з-за сваёй прыроды. Карацей, "наварочана" тут усяго занадта - ня кніжкі, а суцэльная піратэхніка.
Таму і складаецца небеспадстаўнае ўражаньне, што вядзецца паўнавартасная атака на саму ідэю рэчаіснасьці.



**Ідэалёгія ** Як і кожны рух, кібэрпанк мае ідэолягаў. Зразумела, Гібсан, аўтар Бібліі - "Нэўраманта" - па-за канкурэнцыяй, але ён хутчэй Маркс, нават CP-Гегель. Ленін, альбо лепей Троцкі - Брус Стэрлінг. Менавіта гэты тэхсаскі хлопча пачкамі "смажыў" маніфэсты руху, у тым ліку прароцкі артыкул-прадмову да славутай анталёгіі "Люстраныя акуляры".
Чалавек ня можа пасьпець за зьменамі - тэхналягічнымі і зьвязанымі зь імі сацыяльнымі. Але ўжо зараз мы назіраем падвід хома сапіенс, які прыстасаваўся да таго, што жыцьцё непазнавальна зьмяняецца за кароткі прамежак часу. Для яго разрыў паміж культурамі ў межах аднаго грамадзтва - натуральны стан.
Паводле Бадрыяра, зараз працэс стварэньня сымулякараў вырваўся з-пад чалавечага кантролю. Копія ня проста адмаўляецца падпарадкоўвацца арыгіналу, яна сама пачынае кіраваць прататыпам. Сымулякар цалкам замяшчае сабой рэчаіснасьць. Нерэчаіснасьць робіцца рэчаіснасьцю - больш рэчаіснай, чымся сама рэчаіснасьць (гл. у "Матрыцы"). Кібэрпанкі не бунтуюць супраць згаданага працэсу - яны проста ўсьвядомілі яго. Свабода - гэта "ўсьвядомленая неабходнасьць". Кампутар - гэта Іншы, Чужы, але кібэрпанкі пакутуюць на ксэнафілію. Кампутар і пэрыфэрыя - чалавечы пратэз, які кіруе гаспадаром. Гаворка ўжо вядзецца пра сымбіёз, але хто тут гаспадар, а хто паразыт? Цікаўных адсылаем да эсэ Стэрлінга і артыкула Бадрыяра "Ксэракс і бязьмежжа".
У 1997, калі інтэрнэт пашырыў кібэрпрастору да бязьмежжа, быў напісаны новы маніфэст кібэрпанку. Хрысьціян Кірчаў ужо не хавае палітычнай скіраванасьці руху. Але руху як такога ўжо ня стала. У 1980-х быў моцны рэвалюцыйны кулак. Зараз пальцы расьціснутыя.

Чытай клясыкаў!
1. Нэўрамант Ўільям Гібсан
2. Софтвар Рудзі Рукер
3. Зімовы рынак Ўільям Гібсан
4. Музыка, што гучыць у крыві Грэг Бір
5. Паленьне Хром Ўільям Гібсан
6. Схізматрыца Брус Стэрлінг
7. Лябірынт адбіткаў Сяргей Лук'яненка
8. Націсьніце Enter Джон Валі
9. Сетка Аляксандар Цюрын
10. Гіпэрыён Дэн Сыманс

Глядзі шэдэўры!
1. Нірвана (1997)
2. Экзыстэнцыя (2000)
3. Хакеры (1995)
4. Гатэль "Новая Ружа" (1998)
5. Джоні Мнэмонік (1995)
6. Касец лугавінаў (1995)
7. Матрыца (1999)
8. Бег па лязе (1982)
9. Дзіўныя дні (1995)
10. Сетка (1995)

**Кіно ** Напачатку візійнаму ўвасабленьню кібэрпанку перашкаджала недасканаласьць спэцэфэктаў. Калі адкінуць думку, што кібэрпанк пачаўся з "Мэтропалісу" Фрыца Ланга і японскіх кароткамэтражак, першым уласна CP-муві быў "Джоні-мнэмонік" з Кіану Рыўзам, які здымаўся пад наглядам самога Ўільяма Гібсана. Магчыма, з-за яго фільм атрымаўся нейкім незразумелым для непадрыхтаванага гледача. Не, касу сваю ён сабраў, але ў пэўных колах набыў статус "культавага", і пры гэтым некаторыя кажуць, што Рыўз у "Джоні-Мнэмоніку" пахаваў кінакібэрпанк...
Але памятайма: кінаканону CP не існуе, ёсьць стужкі, якія выкарыстоўваюць пэўныя хады, адлюстроўваюць атмасфэру - напрыклад, "Матрыца".
Асабіста я лепшым CP-муві лічу "Нірвану" - яна мае ўсе неабходныя элемэнты стылю і сюжэту (а магчыма, спрацоўвае эўрапейская салідарнасьць). Адзначым і Кронэнбэргаву "Экзыстэнцыю".
У сутарэньні кібэр-рэвалюцыянэраў пэрманэнтна цыркулююць чуткі пра здымкі "Нэўраманта", якія нібыта "вось-вось пачнуцца" ці нават "скончаныя, ды мафія "Матрыцы" выкрала стужку". Але ці варта здымаць паўнавартасную экранізацыю Бібліі, пасьля плакацца над "зганьбаванымі бесьсьмяротнымі сюжэтамі"? Будучь незадаволеныя, клік-клік-клік клік клік-клік...

Дзе скачаць па-расейску:
http://lavka.cityonline.ru/lavkamirov.htm
http://cyberpunk.dotnet.lv/index.htm
http://cyberlib.narod.ru/index.html





## ТВАЯ СЫНТЭТЫЧНАЯ абалонка

**Канец XIX - пачатак XX стст.** Луі-Мары Ілэйрэ Бэрніга, граф дэ Шарданэ вынаходзіць віскозу, прадукт рэгенэрацыі цэлюлозы. Хімік пакуль ня ведае, што стаіць на парозе тэкстыльнай рэвалюцыі. Пазьней віскозу назавуць самым натуральным са штучных валокнаў, а ў побыт яна ўвойдзе пад назвай "штучны шоўк".

**1918-1920.** У Францыі ўпершыню наладжаная прамысловая вытворчасьць штучных тканінаў.

**1935.** Уолас Каразэрс, кіраўнік групы Дзюпон, сынтэзуе нэйлён і называе яго "палімерам 6,6". У 1937 годзе вынаходніцтва запатэнтаванае. У рэкляме тых гадоў пра нэйлён кажуць, што ён мае "трываласьць сталі і тонкасьць павуціньня". 15 траўня 1940 г. увайшоў у гісторыю ЗША як "нэйлёнавы дзень": за папярэднія чатыры дні было прададзена 4 мільёны параў нэйлёнавых панчохаў.





**1950-я.** Сынтэтычны бум. У 1955 годзе ў СССР сынтэтычных валокнаў было выраблена ў 10 разоў болей, чымся ў 1940-м. Дакрон, хлярын, тэрылен, паплін... Назвы новых сынт-валокнаў п'яняць галовы хімікам-рамантыкам, штурхаюць іх да новых адкрыцьцяў.

**1959.** Трэцяя, далёка не апошняя сынтэтычная рэвалюцыя, параўнальная хіба што з нэйлёнавай, зьвязаная са зьяўленьнем лайкры. Лайкра, абкручаная поліамідам, надае тканінам функцыянальнасьць: зьяўляецца вопратка, якая "падтрымлівае" цела. Аднак сапраўдную папулярнасьць лайкра набудзе толькі ў 80-я. І больш яе ня страціць: напрыканцы XX ст. пачнуцца распрацоўкі "трохмернай" тэхналёгіі LYCRA 3D. Навукоўцы абяцаюць "непераўзыйдзены камфорт адзеньня".



**2 палова XX ст.** Пэрыяд мікратэхналёгіяў у тэкстылі. Адкрыцьцё мікракапсюляцыі: у валакно ўводзяцца капсюлі з водарамі, вітамінамі, марскімі водарасьцямі і антыбактэрыцыднымі рэчывамі.

**Пачатак XXI ст.** Вядуцца распрацоўкі т.зв. "разумных" матэрыялаў, якія маглі б аўтаматычна падстройвацца пад зьмены навакольнага асяродзьдзя - тэмпэратуры, вільготнасьці, асьвятленьня і г.д.




# СЫНТЭТЫКА СТО ГОД НАПЕРАД

## акунаймася ў будучыню

тэкст: Вольга Цяцёркіна

У 1991 PAUL MCNROY СТВАРЫЎ ТОЕ, ШТО МОЖА ДАПАМАГЧЫ ЧАЛАВЕЦТВУ ЗРАЗУМЕЦЬ БУДУЧЫНЮ - ТЭХНАЛЕГІЮ TIMELINE. НАПАЧАТКУ ЯНА МЕЛА ВЕЛЬМІ ПРЫЗЕМЛЕНЫЯ МЭТЫ - ЯК НАЙЛЕПЕЙ ПРЫСТАСАВАЦЬ БІЗНЭС-ПЛЯНЫ КАМПАНІЯЎ ДА ПАТРЭБАЎ КЛІЕНТА, АЛЕ ХУТКА СТАЛА НЕЧЫМ БОЛЬШЫМ. У ВЫНІКУ НЕХТА СЫПЯШАЕЦЦА НАЗВАЦЬ MCNROY ДАКЛАДНЫМ НАСТРАДАМУСАМ СУЧАСНАСЬЦІ, ЯКІ БЕЗ НАМІНКІ І НЕДАМОВАК ПІША ПРА ТОЕ, ШТО ЧАКАЕ КОЖНАГА З НАС. ПРЫ СКЛАДАНЬНІ НОВАГА РАПАРТУ ПРА БУДУЧЫНЮ, ЯКІ ПАБАЧЫЎ СЬВЕТ У СЬНЕЖНІ 2002, БАЦЬКА TIMELINE КАРЫСТАЎСЯ РОЗНЫМІ КРЫНІЦАМІ ІНФАРМАЦЫІ: НОВЫЯ ДАДЗЕНЫЯ БРАЛІСЯ З НАВУКОВЫХ ЧАСОПІСАЎ, БІЮЛЕТЭНЯЎ, ІНТЭРНЭТУ, З РАЗМОВАЎ З ЭКСПЭРТАМІ І НАВАТ ФАНТАСТАМІ →

**2003**
- ва ўсім сьвеце - каля більёну карыстальнікаў інтэрнэту;
- на сьвет зьяўляецца штучнае кацяня;
- новыя тэхналёгіі дазваляюць аўтаматычна вызначаць хакера;
- дзякуючы новым сыстэмам назіраньня твар любога чалавека можна распазнаваць у грамадзкіх месцах;
- навукоўцы вынаходзяць чып, які распазнае галасы;
- у продаж паступаюць кампутарная мышка і клявіятура без правадоў, тым часам сканструяваны кампутар памерам з ручны гадзіньнік;
- зьяўляецца адзеньне, якое падтрымлівае неабходную тэмпэратуру.

**2004**
- кампутары самастойна ствараюць музычныя кампазыцыі ў любым стылі;
- робат вядзе ўласную праграму на ТБ;
- людзі пачынаюць актыўна выкарыстоўваць прыборы-датчыкі, якія спрацоўваюць, калі крадуць уласныя рэчы;
- пачынаюць выпуск таблетак з чыпам, які разьмяркоўвае лекі ў арганізме;
- узьнікае новы вірус, здольны пранікаць у дзіцячыя цацкі;
- лялька Барбі пачынае хадзіць па крамах і выбіраць дзіцця-пакупніка, а таксама настойвае на сваім грашовым утрыманьні (а менавіта патрабуе аплачваць яе адзеньне і ўпрыгожваньні);
- цацкі ўдзельнічаюць у ваенізаваных гульнях у сеціве;
- ствараюць камэры, убудаваныя ў кантактныя лінзы, з магчымасьцю запісу і прагляду таго, што мы бачым;
- карыстальнікі ТБ-інтэрнэту дасягаюць колькасьці карыстальнікаў кампутараў;
- у космас ляціць першая касьмічная каманда, складзеная цалкам з жанчынаў;
- у шырокі продаж паступаюць новыя мадэлі дысплэяў, тонкіх, як папера;
- магчымы імгненны пераклад з мовы на мову;
- лепшыя дактары даюць кансультацыі і лечаць пацыентаў у аддаленых ад цывілізацыі клініках праз сваю "тэленаяўнасьць";
- адбываюцца першыя Алімпійскія гульні для робатаў.

**2005**
- на плянэце зафіксаваны більённы карыстальнік мабільнага тэлефона і такі ж па ліку карыстальнік інтэрнэту;
- на вуліцах гарадоў устанаўліваюцца будкі відэатэлефонаў;
- адбываецца прыватны касьмічны вылет да астэроіда, каб дасьледаваць магчымасьць здабыцьця выкапняў;
- створаны якасны сынтэзаваны голас, па характарыстыках максымальна набліжаны да чалавечага;
- выкарыстоўваецца глябальная электронная валюта;
- небясьпека тэрарызму, нягледзячы на меры ўрадаў сьвету, узрастае і адбываецца галоўным чынам праз кампутар;
- вызначаецца структура чалавечага ДНК;
- пераможаны голад;
- тэатры атрымліваюць дадатковы прыбытак, бо трансьлююць п'есы праз інтэрнэт;
- людзі жывуць у віртуальнай рэальнасьці.

**2006**
- ствараюцца цацкі і робаты, якія рэагуюць на чалавечыя эмоцыі;
- незгаральныя робаты пачынаюць працаваць на пажарах і выратоўваць людзей з агню;
- створанае першае штучнае электроннае жыцьцё;
- навукоўцы робяць публічнымі зьвесткі пра тое, што ўпершыню ажыўлены памерлы чалавек.

**2007**
- цалкам аўтаматызуюцца фабрыкі;
- электронныя грошы мігруюць зь інтэрнэту ў рэальныя крамы;
- масава выпускаецца адзеньне, якое можа мяняць колер, зьбіраць і захоўваць сонечную энэргію;
- у офісы прыходзіць новы - трохмерны - факс;
- кампутары пішуць большую частку свайго праграмнага забесьпячэньня;
- людзі заводзяць у хатах разумных аўтаматызаваных хатніх жывёлаў;
- бытавая тэхніка набывае інтэлект, нават выключальнікі сьвятла пачынаюць кіравацца і дзейнічаць у залежнасьці ад эмоцыяў гаспадароў;
- пачынаецца першая вайна ў сеціве між кібэргрумадствамі.

**2010**
- разгараецца глябальная грамадзянская вайна паміж кібэрнацыямі;
- хакеры ўзломваюць сеціва, чым выклікаюць хаос і масавы голад;
- вірусы сталіся трывалымі да ўсіх вядомых відаў лячэньня;
- канец нацыянальным дзяржавам;
- пачынаецца выкарыстаньне ўзбраеньня, якое ўплывае на ДНК;
- кібэрграмадства налічвае 100 мільёнаў чалавек;
- эмбрыянальны выбар полу дзіцяці становіцца клінічнай нормай;
- маладыя людзі робяць сабе відэататуіроўкі, якія рухаюцца па ўсім целе;
- інсэктападобныя робаты выкарыстоўваюцца для ваенных патрэбаў;
- 90% тэлефанаваньняў па ўсім сьвеце адбываецца з мабільных тэлефонаў;
- кожны новы аўтаномны робат мае штучную нэрвовую сыстэму;
- назіраньне па відэа за суседзямі становіцца сацыяльнай праблемай;
- ствараецца звышкампутар з хуткасьцю чалавечага мозгу;
- Барбі выпускаецца толькі з пэрсанальным чыпам і сэнсорыкай;
- 25% ТБ-знакамітасьцяў - сынтэтычныя;
- адбываюцца ўдалыя спробы генэтычнага кантролю чалавецтва;
- кожны мае магчымасьць атрымаць аргазм па e-mail.

**2012**
- адбываюцца першыя Экстрэмальныя Алімпійскія гульні;
- акадэмічнае навучаньне прызнаецца непатрэбным у эру звышмоцных машынаў;
- кампутары прызнаюцца за калегаў.

**2015**
- зьдзяйсьняецца першы палёт людзей на Марс;
- пастаянна адбываюцца касьмічныя туры вакол Зямлі, адкрываецца першы касьмічны гатэль на 350 гасьцей;
- кампутары й робаты набываюць сьвядомасьць і становяцца інтэлектуальна больш дасканалымі за людзей;
- выкарыстоўваюцца пластыкавыя "ціхія" танкі;
- масавыя ўцёкі з краінаў "трэцяга сьвету" дэстабілізуюць глябальную сыстэму;
- уводзяцца ў эксплюатацыю будынкі, якія могуць пераканфігуроўвацца, у іх выкарыстоўваюцца вокны з галяграфічным пакрыцьцём, што пераадрасоўваюць сонечнае сьвятло;
- віртуальны зьбег ад рэчаіснасьці - галоўная сацыяльная праблема зямлянаў;
- уводзіцца інстытут падвоенай нацыянальнасьці - да асноўнай дадаецца кібэрнацыянальнасьць;
- паліцыя прыватызуецца;
- машына выкарыстоўвае такі самы творчы патэнцыял, які мае чалавек.

**2017**
- веды машынаў пераўзыходзяць чалавечыя;
- зьяўляюцца робаты, якія самі дыягнастуюцца і самаўзнаўляюцца;
- большасьць гарадоў маюць копіі ў кібэрпрасторы;
- першы кампутар становіцца доктарам навук;
- кампутар атрымлівае Нобэлеўскую прэмію.

**2020**
- кампутар пачынае марыць;
- электронныя хатнія жывёлы колькасна пераўзыходзяць арганічных хатніх жывёлаў;
- формам электроннага жыцьця даюцца асноўныя правы;
- пэнсійны ўзрост - 70 гадоў;
- у Японіі - гарады глыбока пад зямлёй;
- дзякуючы геннай інжынэрыі зьяўляецца мноства новых формаў расьлінаў і жывёлаў;
- палёты людзей на Марс становяцца рэгулярнымі;
- штучныя зьмены ў прыродзе прыводзяць да глябальнага голаду;
- асноўныя інфармацыйныя сыстэмы разбураюцца;
- павышэньне глябальнага дыктату машынаў;
- адбываюцца сацыяльныя катаклізмы ў ЗША і Эўропе;
- працаглясьць жыцьця павышаецца да 100 гадоў;
- кібэрпрастора пакрывае 75% разьвітага сьвету;
- вірус зьнішчае палову электроннага насельніцтва.

**2025**
- укараняецца тэлепатыя, чалавек мае магчымасьць распазнаваць чужыя думкі;
- ствараецца Матрыца;
- у разьвітых краінах робатаў больш, чым людзей;
- зьяўляюцца кібэрнэтычныя глядыятары;
- чалавек карыстаецца прыстасаваньнямі, якія кантралююць эмоцыі;
- глябальная эпідэмія ў гарадах-гігантах;
- сеціва становіцца сьвядомым і ня хоча супрацоўнічаць зь людзьмі.

**2030**
- пачынаецца будаўніцтва навуковай лябараторыі на Марсе;
падчас доўгіх касьмічных вандровак людзі выкарыстоўваюць наркоз;
- чыпы эмацыйнага кантролю выкарыстоўваюцца для нагляду за крымінальнікамі;
- паміж людзьмі адбываецца найпростая мазгавая сувязь;
- Нацыянальная Бібліятэка Кангрэсу ЗША зьмяшчаецца ў кубік памерам з рафінад;
- узрастае аб'ём чалавечага мозгу;
- робаты фізычна й інтэлектуальна мацнейшыя за людзей.

**2040**
- жыцьцё генэтычна праектуецца;
- на Месяцы функцыянуе невялікая вёска;
- астэроіды выкарыстоўваюцца ў якасьці зброі.

**2050**
- падрастае цэлае пакаленьне, ня здольнае чытаць, пісаць, эфэктыўна думаць і працаваць;
- 10% сусьветных лясоў згублена;
- 50% сусьветнай пахатнай зямлі забруджана;
- азонавая дзірка зьнікае;
- 1,42 більёны людзей у сьвеце старэйшыя за 65 гадоў.

**2065**
- сусьветная папуляцыя дасягае 10 більёнаў;
- чалавечая індустрыя стварае варожую ёй вышэйшую расу.

**2075**
- людзі асыміляваліся ў сеціве;
- вынайдзенае вандраваньне па часе.

**2100**
- знойдзены чып бесьсьмяротнасьці.




© Benjamin Gaylord

# ВАЙНА З РЭЧАМІ

## байка з каралеўства Лайлоніі

**Лешак Калакоўскі**



Бліны з сочывам звычайна маюць кепскі характар. Яны паводзяць сябе баязьліва і ў той жа час падступна, да таго ж зусім не разумеюць сур'ёзных рэчаў. Яны часта плачуць (а вядома, што няма нічога горшага за блін, які плача), але толькі адвернесься - глумліва сьмяюцца. Робяць таксама шмат нечаканых гнюснасьцяў, што псуюць людзям добры настрой. Таму Дзіта нават з палёгкаю глядзеў, як бліны, абражаныя яго зласьліваю мінай, паўскоквалі зь місы й шчыльнымі радамі выйшлі з пакою. Аднак у наступнае імгненьне ўвайшла Ліна і, убачыўшы пустую місу, непрыемна зьдзівілася.

- Дзіта, - сказала яна, - чаму ты зьеў усе бліны й нічога мне не пакінуў?
- Я ня зьеў ніводнага, - запярэчыў Дзіта.
- Дык што? Можа, хочаш сказаць, што бліны пайшлі сабе на шпацыр?
- Так, менавіта гэта я й хачу сказаць.
- Што яны ўсталі сабе зь місы ды пайшлі?
- Так, проста падняліся зь місы ды пайшлі.
- Ты нягодны ласун, Дзіта, - сказала Ліна, заплакаўшы. - Празь цябе ў мяне ня будзе абеду.
- Але, Ліна, паслухай, я таксама не абедаў.
- Не абедаў?! А дзе тады бліны?!
- Я ж кажу табе, яны пайшлі.
- Ну тады ідзі й прывядзі іх назад!

Дзіта выбег з дому ў пагоні за блінамі. Перасьледаваньне было нядоўгім, бо бліны, як вядома, ходзяць ня надта хутка, так што Дзіту ўдалося дагнаць іх недалёка ад дому. Задыханы, ён кінуўся на бліны, каб сабраць іх і занесьці назад дадому. Бліны зь віскатам вырываліся ў яго з рук і разьбягаліся ва ўсе бакі, і Дзіта ня ведаў, за якім гнацца. Пасьля паўгадзіннай пагоні яму ўдалося нарэшце схапіць большасьць уцекачоў, шчодра абмазаных сочывам; ён парасьпіхваў іх, як мог, па кішэнях і зь вялікім трыюмфам пабег дадому, дзе чакала пакрыўджаная Ліна.

- Ну што? - зьедліва запытала яна. - Ці дагнаў ты бліны?
- Вядома ж, дагнаў, - сказаў Дзіта. - Пару схапіць не ўдалося, але большасьць злавіў. - Кажучы гэта, ён пачаў выцягваць з кішэняў раструшчаныя й ліпучыя бліны, што нема галасілі. Уся адзежа была перапэцканая сочывам, і Ліна глядзела на яго з жахам.
- Дзіта, - сказала яна, - уся адзежа на глум!
- Ты ж сама хацела, каб я дагнаў бліны. Што рабіць, я іх дагнаў. Але, прынамсі, не кажы мне пра адзежу.
- Ты проста манюка, Дзіта! - крыкнула Ліна. - Купіў бліноў у краме, а цяпер кажаш мне, нібыта гэта тыя самыя, што быццам бы пайшлі на шпацыр.
- Але, Ліна, запытайся сама ў бліноў, хай яны скажуць, як гэта было.

Тады Ліна запыталася ў аднаго бліна, ці праўда, што яны былі тут у місе, а пасьля пайшлі на шпацыр. Блін добра зразумеў, пра што гаворка, але ж адказаў на злосьць, што нічога падобнага, што ён ніколі тут ня быў, што хвіліну таму Дзіта купіў яго ў цукерні. Усе бліны па чарзе апавядалі адно і тое самае, а Дзіта з гневам слухаў іх хлусьню, разумеючы, што цяпер Ліна ўжо ніколі ня дасьць яму веры. І калі Ліна захацела нешта сказаць, ён хутка перапыніў яе й закрычэў:

- Ліна! Няўжо ты хутчэй паверыш гэтым пачварным блінам, чым мне?! Ты ж ведаеш, што бліны хлусяць!
- Гэта ты хлусіш! - крыкнула Ліна. - Скуль бліны могуць прыдумаць такую гісторыю?!

Дзіта ўздыхнуў і выйшаў, пакінуўшы Ліну, якая з кіслаю мінай села есьці бліны. Ён пайшоў у лазенку і, абураны подласьцю бліноў, вырашыў уступіць у нейкі хаўрус, які дапамог бы яму ў жыцьці. Ён згадаў пра зубную пасту, што, як ён памятаў, мела мяккі й мілы характар. Ён паспрабаваў пачаць зь ёю размову, але, як толькі ён адкрыў цюбік, паста з шыпеньнем пацякла зь цюбіка, мякка й міла пенячыся. Дзіта перапалохаўся, а калі Ліна ўвайшла ў лазенку ды ўбачыла выціснутую пасту, твар яе быў суровы.

- Дзіта! Зноўку ты робіш псоты? - спыталася яна.
- Але ж не, паста сама выціснулася зь цюбіка.
- Дзіта! Ты непапраўны, - сказала Ліна са смуткам. - Можа, мне запытацца ў пасты, хто яе выціснуў зь цюбіка?

Але паста, не чакаючы запытаньня, сама прашыпела, што менавіта Дзіта выпусьціў яе зь цюбіка. Тлумачэньні Дзіта пайшлі намарна. Ён застаўся вінаватым, а зласьлівасьць пасты выклікала ў Дзіта абыякавасьць да ўсяго.

Але з тае пары ўсе рэчы нібы склалі змову супраць Дзіта й імкнуліся яго скампрамэтаваць. Калі ён ляжаў у ложку, падушка з трэскам распорвалася, і аблокі пёраў засыпалі павідла, кагадзе прыгатаванае Лінаю. Потым падушка бессаромна скардзілася, нібы Дзіта наўмысна яе распароў. Цьвік вылятаў са сьцяны, пакідаючы вялікую дзірку, якую не ўдавалася замазаць, а пасьля крычэў, што гэта Дзіта яго выцягнуў. Шыба, якую не краналі нават пальцам, сама разьляталася на кавалкі і са скрогатам апавядала Ліне, быццам Дзіта разьбіў яе локцем.

Гузікі ад штаноў і палітона сталі зьбягаць і хавацца немаведама куды, а калі які зь іх заставаўся, то адно каб данесьці Ліне, што гэта Дзіта абарваў астатнія і згубіў альбо прайграў хлопцам.

Боты спэцыяльна дзіравіліся ва ўсіх месцах, насоўкі зласьліва губляліся, ня ведаючы стомы, кашуля наўмысна набывала тлустыя плямы, якія нельга было вывесьці, а атрамант зь пляскам зьлётваў са стала, разьліваючыся па ўсёй падлозе.

Дзіта зразумеў тады, што жыцьцё палягае ў цяжкім змаганьні з рэчамі, але ў той жа час падумаў, што змаганьне гэтае марнае, бо Ліна ніколі ня дасьць веры яму, а заўсёды будзе верыць рэчам. А Ліна й напраўду сьлепа верыла рэчам, так што Дзіта быў безабаронны. Яны спрачаліся між сабою, але не маглі пераканаць адно аднаго канчаткова: Дзіта бачыў зласьлівасьць рэчаў і бачыў, як яны робяць свае штучкі, Ліна ж была ўпэўненая, што Дзіта спэцыяльна, на злосьць ёй усё нішчыць і губляе. Бо ў яе прысутнасьці ніколі нічога такога не адбывалася - рэчы паводзілі сябе спакойна, быццам бы лічылі Ліну сяброўкаю.

Больш за тое, нават рэчы, якія нібыта былі часткамі самога Дзіта, пачалі выкідваць зь ім брыдкія жарцікі. Валасы выпадалі ў яго з галавы, а Ліна сьцьвярджала, што Дзіта наўмысна лысее. Сэрца білася ў яго ўсё слабей, і Дзіта ніяк ня мог зь ім паразумецца. Адно вуха зрабілася вялікае й бясформеннае, а Ліна крычэла, што Дзіта сам сабе яго перарабіў, адно каб зрабіць ёй на злосьць.



Спазнаўшы падступства рэчаў, Дзіта прыйшоў да высновы, што можа паспрабаваць яшчэ два варыянты: альбо самому ператварыцца ў нейкую рэч, альбо цалкам пазбавіцца рэчаў. Апошняе ён, паразважаўшы, адкінуў, паколькі ня ведаў, якім чынам мог бы, напрыклад, пазбыцца веек, што належалі яму беспасярэдне, як і ногі, рукі ці галава. "Затое калі б я, - падумаў ён, - сам ператварыўся ў нейкую рэч, то змог бы альбо паказаць Ліне сапраўдную зласьлівасьць рэчаў, альбо, можа, выхаваць іншыя рэчы, каб яны перасталі выкідваць брыдкія фокусы".

І Дзіта пераапрануўся ў блін з сочывам, таму што менавіта бліны назалялі яму напачатку найбольш. Нялёгка было вытрымаць у адзежы бліна, але раней ці пазьней да ўсяго можна прызвычаіцца. Калі Ліна зрабіла сабе бліны з сочывам, пераапрануты Дзіта ўскочыў у місу. Спачатку ён зьвярнуўся да бліноў, спрабуючы іх прысароміць і давесьці, што псоты, якія яны робяць, надта ўжо непрыстойныя. Але бліны адразу ж сьцямілі, што маюць дачыненьне зь пераапранутым, а не сапраўдным блінам, і не захацелі яго слухаць. Тады Дзіта паспрабаваў іншую тактыку: ён сам пачаў схіляць бліны да псотаў, раячы, каб яны выскачылі зь місы й заплямілі сочывам сукенку Ліны; ён спадзяваўся, што такім чынам, прынамсі, пераканае Ліну ў зласьлівасьці рэчаў. Але бліны не пажадалі яго слухаць і далі сябе зьесьці без супраціву, так што Дзіта сам ледзь пасьпеў незаўважна зьбегчы зь місы.

Няўдалая спроба не спыніла яго. Ён хацеў паспытаць шчасьця іншым чынам і пераапрануўся ў гузік, прышыты да палітона Ліны. Але зноўку паўтарылася тое самае: іншыя гузікі адразу ж выкрылі яго як фальшывы гузік і ня далі схіліць сябе да найменшых псотаў супраць Ліны. Ён паспрабаваў быў сам адарвацца ад палітона й зласьліва згубіцца, але ж ня меў спрыту, а таму ніякіх вынікаў не дасягнуў.

Нарэшце Дзіта зразумеў, што справа безнадзейная: рэчы змагаліся выключна зь ім і зусім не хацелі змагацца зь Лінаю. Зь Лінаю яны паводзілі сябе прыязна й дазвалялі ёй рабіць зь імі, што заманецца. Затое зь ім былі падступнымі ды зласьлівымі, і ніякія ўгаворы й выхаваўчыя захады не давалі выніку.

Дзіта зноўку набыў свой уласны выгляд. Ён зразумеў, што рэчы нельга ані выхаваць, ані зьмяніць, але трэба абыходзіцца зь імі сурова й цьвёрда, каб прымусіць іх быць паслухмянымі. Але як гэта зрабіць? Напачатку Дзіта спрабаваў бязьлітасна нішчыць рэчы: да абурэньня Ліны ён краіў бліны на дробныя кавалкі й выкідаў на сьметнік, выпускаў пасту зь цюбіка проста ў мыйніцу, бяз дай прычыны адрываў гузікі ад вопраткі й шпурляў іх куды трапіцца, выліваў атрамант на двор, а шклянкі трушчыў на сходах. Ліна крычэла, плакала, тупала нагамі. Дзіта рабіў так нейкі час, але бачыў, што рэчы - патрушчаныя, пакамечаныя, падзертыя й панішчаныя - паводзілі сябе абыякава, нібы мёртвыя, і зусім не рэагавалі на яго выбрыкі. І ён усьвядоміў, што яму ніколі ня ўдасца расправіцца з усімі рэчамі, і барацьба безнадзейная.

Тады Дзіта прыйшоў да высновы, што проста прайграў вайну. Проста пацярпеў паразу й абвесьціў, што прызнае сябе пераможаным. Усе яго намаганьні выявіліся дарэмнымі. Кожная вайна павінна чымсьці скончыцца - перамогаю, паразаю альбо перамір'ем. Гэтая вайна скончылася паразаю Дзіта, і болей ужо не было чаго дадаць. Згодна са звычаямі тых барбарскіх часоў, пераможаныя станавіліся палоннымі пераможцаў - і Дзіта трапіў у палон да рэчаў.

Таму, калі Ліна паставіла на стол бліны з сочывам і выйшла на хвілінку ў кухню, Дзіта безуважна глядзеў, як бліны адзін за адным павольна спаўзаюць з талеркі і, зласна ўсьміхаючыся, выходзяць з пакою.



*Пераклаў з польскай Андрэй Хадановіч паводле: Leszek Kolakowski. 13 bajek z krolestwa Lailonii dla duzych i malych oraz inne bajki. Warszawa, 1998.*



Лешак Калакоўскі - адзін з найвядомейшых у сьвеце польскіх філёзафаў, гісторык філязофіі, эсэіст і публіцыст. "Інтэлектуальны кароль Эўропы", сябра Міжнароднага Інстытуту філязофіі Брытанскай Акадэміі й ганаровы сябра Амэрыканскай акадэміі Мастацтваў і Навук, сябра Баварскай акадэміі Мастацтваў і Ганаровага Камітэту Цэнтру палітычнай думкі ў Кракаве... Зь лістападу 1968 г. жыве ў эміграцыі, працуючы ў Канадзе, Злучаных Штатах і Англіі.




# ТОМ + ФРАНКА =

## фільмаграфія аднаго каханьня

тэкст: D&A

Адносна нядаўна распаўся самы модны і - не пабаімся гэтага слова - пладавіты кінатандэм. Супольна паставіўшы на вушы Амэрыку фільмам “Бяжы, Лола, бяжы”, рэжысэр са сьмешным імем Том Тыквэр і нямецкая прыгажуня-акторка Франка Патэнтэ зрабілі адно аднаму ручкай. Каб паасобку рушыць адной і той жа сьцежкай - у бок Галівуду



*“У кіно людзі заўсёды трапляюць у сытуацыі выбару”*
**Том Тыквэр**



### ТОМ ТЫКВЭР



нарадзіўся ў 1965 годзе ў Вупэрталі (Нямеччына). Дэбют - "Гадзіла" ("Godzilla"), зьнятая ў 12 год аматарскай камэрай. Якасьць "фільму" пра плястыкавага монстра з тупым позіркам мала хвалявала Тыквэра - дзіцячая мара пра кіно была ўвасобленая. Да надыходу сапраўднай папулярнасьці знаходзіўся ў квазі-летаргічным стане - "У зімовай сьпячцы" ("Winterschlafer", 1997). Посьпех ня проста прыйшоў, ён уляцеў на шалёнай хуткасьці -

### ФРАНКА ПАТЭНТЭ



нарадзілася ў 1974 у маленькім нямецкім горадзе Мюнстэры, дзе нават не было кінатэатру. Таму мары пра кар'еру кінаакторкі форму навязьлівай ідэі не прынялі. Перад тым як прачнуцца вядомай, Франка пасьпела засьвяціцца ў 15 ролях і нават адхапіць прыз на Баварскім фэсьце за лепшы дэбют.

У адзін цудоўны дзень, за 20 хвілінаў прачытаўшы прапанаваны сцэнар, Патэнтэ ўсклікнула: "Мне ўсё роўна, колькі мне за гэта заплацяць! Я проста абавязаная сыграць у фільме

## "БЯЖЫ, ЛОЛА, БЯЖЫ"

### спатканьне на шырыні кадра і мядовы месяц на лаўрах пераможцаў

"Лола, ты казала, каханьне можа ўсё. А як наконт 100.000 марак за 20 хвілінаў?"

На старт! Увага! Паехалі! Выкажам рашучы пратэст "соплесьлязьлівай" рамантыцы. Сюжэт ненавязьліва наводзіць на разважаньні пра ўласныя лёс і пра людзей, што сноўдаюцца навокал. Дынаміка праглынае гледача цалкам, не жадаючы нават паварушыць скіvіцамі. На такіх хуткасьцях не выходзяць - ты ўсё роўна дагледзіш да канца. Некалькі хвілінаў, каб перавесьці дух - "Усё добра... Ты што, увесь час бегла?"

**"Бяжы, Лола, бяжы" (Lola, rennt, 1998)**

Дзеючыя асобы - дачка банкіра Лола і яе бой-фройнд Мані, а таксама ўсе тыя, хто трапіўся на дыстанцыі. Расьцяпа Мані пакідае ў вагоне пакет з грашыма, якія ён павінен аддаць свайму босу-наркадылеру. У пакеце - 100.000 марак. Часу на




роздум - 20 хвілінаў. Дакладней, тры разы па дваццаць - тры амаль аднолькавыя гісторыі. І кожная з трох заканчваецца па-свойму. У першай забіваюць Лолу. Але яе адчайнае "Стоп!" вяртае ўсіх на старт, і бег пачынаецца зноў. Фінал другой гісторыі таксама "непрымальны": машына "хуткай дапамогі" зьбівае Мані. Зноўку ўсё вяртаецца ў пачатак, каб гэтым разам скончыцца шчасьліва й фантастычна: кожны знаходзіць па 100.000 - ужо дзьвесьце. Сто аддаем босу, сто пакідаем сабе. Мараль: ёсьць грошы - ёсьць будучыня для двух закаханых маладзёнаў.

У 1998 годзе міжнародную супольнасьць з галавой накрыла цёплай хваляй кінашчырасьці ад Франкі Патэнтэ і Тома Тыквэра. Хваля па сваёй прыроднай сутнасьці сталася цунамі. Крытыкі ў адзін голас называлі "Лолу" калі не шэдэўрам, дык дакладна экспэрымэнтам, паўтарыць які ня здольны нават сам Тыквэр. "Я хацеў, каб "Бяжы, Лола, бяжы" схапіла гледача за каўнер і пацягнула за сабой з хуткасьцю "амэрыканскіх горак," - прызнаваўся потым рэжысэр. Надзеі спраўдзіліся. Эўрапейцы натоўпам асаджвалі кінатэатры, амэрыканцы пакаталіся на сваім жа атракцыёне. "Канапная" вэрсія кампутарнай гульні - для тых, хто ня любіць у іх гуляць. Схаваныя падтэксты - для тых, хто іх шукае. Панк-анёл - новы кіслотны ідал апошняй дэкады стагодзьдзя "двух X" - для ўражлівых падлеткаў. Кліп на паўтары гадзіны - для мэляманаў. І адрэналін - для ўсіх астатніх.

> У пакеце, які Мані забыў у мэтро, знаходзіліся сапраўдныя 100.000 марак - ганарар Франкі і Морыца за фільм. Па меркаваньні рэжысэра-садыста Тыквэра, гэтая акалічнасьць мусіла дадаць артыстам непадробнага хваляваньня і шчырасьці.

## "ПРЫНЦЭСА І ВАЯР"

"Прынцэса і ваяр" стаўся неразьмяшаным міксам з энэргічнай "Лолы" і каматознай "Зімовай сьпячкі" - звышактыўнасьць чаргуецца са станам агульнай млявасьці і схільнасьці да самагубства. На выхадзе павінна было атрымацца кіно ў нармальным, жыцьцёвым тэмпе. Ідэя зьвілася яшчэ да "Лолы", калі Тыквэр і Патэнтэ - як звычайна ка-

жуць са сьлязьмі замілаваньня на вачах - сустрэліся і пакахалі адзін аднаго. Пасьля сьвядомай гульні ў выпадковасьці Тыквэра "прабіла" на філязофію. Зь нямецкім каляры-там сьветаўспрыманьня. Тыквэр і Патэнтэ ў сваіх супольных праектах толькі тым і займаюцца, што заводзяць адну і тую ж кружэлку пад умоўнай назвай SOS. Такое адчуваньне, што культавы дуэт, адначасова забаўляючыся і, між справамі, раздумваючы над праблемамі існаваньня, выпрабоўвае прынцыпы школьнай арытмэтыкі: "На колькі зьменіцца сума ад перамены складнікаў?" У "Лоле" першай карты ў рукі атрымлівае гіпэрактыўная self-made жанчына. Жыцьцё казачнай і, у выніку пэўных абставінаў, крыху тармазнутай "Прынцэсы" трапляе ў рукі мужчыны. Нязьменным застаецца аб'ект выратаваньня - каханьне, каханьне і яшчэ раз каханьне. Якое, як у адзін голас сьцьвярджае кінапарачка, і ў вар'ятні каханьне, а не субстанцыя без кансыстэнцыі, якую ад няма чаго рабіць можна размазваць па шкле. "Прынцэса і ваяр" - вынік, якога варта было чакаць. Накшталт супольнага дзіцяці.

**"Прынцэса і Ваяр" (Der Krieger und die Kaiserin, 2000)**

Гісторыя двух маладых людзей з расстроенай псыхікай, якім наканавана было сустрэцца. Сісі (Франка) - мэдсястра зь імем аўстрыйскай імпэратрыцы - працуе ў вар'ятні. Яе бацькі былі пацыентамі гэтай установы. Падаецца, што і ў самой Сісі з мазгамі ня ўсё добра, але яна ня буйная - проста дзівачка. Мясцовыя псыхі ад яе ў захапленьні - прызнаюць за сваю. Бода (Бэна Фурман) - малады чалавек у вайсковай куртачцы і са звычкай пастянна плакаць ды трызьніць у сьне. У якасьці бясплатнага дадатку - псыхалягічная траўма: некалькі месяцаў таму на бэнзакалёнцы заўчасна загінулі яго жонка і машына, але па кім/чым ён больш смуткуе, невядома. Ён правакуе аварыю, ахвярай якой робіцца Сісі. Сытуацыя незайздросная - прынцэса ляжыць пад грузавіком і задыхаецца. Ваяр, абазнаны ў мэдыцыне, як і належыць, выратоўвае ёй жыцьцё. Пасьля шпіталю прынцэса выпраўляецца на пошукі свайго героя з мэтай аддзячыць збаўцу. Чым? Зразумела, каханьнем. Ён, шчыра кажучы, не ў вялікім захапленьні ад прапанаваных пэрспэктываў, бо ёсьць больш вартыя заняткі - улюбёная траўма і задуманае рабаваньне банку. Спробы разжыцца грашыма на халяву посьпехам ня скончыліся, і надыходзіць чарга прынцэсы ратаваць аб'ект сваёй жарсьці.

Першапачаткова па сюжэце ў "Прынцэсе і ваяры" плянавалася сцэна ў ложку з Бэна і Франкай. Аднак, добра падумаўшы, Тыквэр вырашыў яе выразаць. Маўляў, напачатку фільму, падчас аварыі, абодва пэрсанажы былі ў такіх шчыльных кантактах, што іншыя сцэны проста не ідуць зь імі ні ў якое параўнаньне.

Гераіня ў перадсьмяротным стане разважае: "І тут у мяне засьвярбела ў дупе... я падумала, што хутчэй за ўсё больш не змагу пачухацца".

## ТОМ БЯЗ ФРАНКІ

Ужо ня ведаем, што там адбываецца на нябёсах, але дакладна ня шлюбы. Прынамсі, у гэтым пляне тандэму яўна не пашанцавала. Барацьба "ўдвох супраць усіх" пад эгідай каханьня скончылася ў "Раі" (Heaven, 2002). Для Тома і Франкі ён ня стаўся сёмым небам шчасьця. Кажуць, Тыквэр яшчэ спрабаваў давесьці прадусарам, каму варта сыграць галоўную ролю. Але квіток у "Рай" атрымала ўнівэрсальная Кейт Бланшэт ("Шарлота Грэй", "Елізавета", "Уладар пярсьцёнкаў", "Таленавіты містэр Рыплі"). Пры ўсёй павазе да яе, у гэтай стужцы яна сыграла нікога іншага, як Франку Патэнтэ ў ролі тэрарысткі-самотніцы.

**"Рай" (Heaven, 2002)**

Першы ангельскамоўны праект Тыквэра. Выкладчыца ангельскай Філіпа (Кейт Бланшэт) дамагаецца справядлівасьці ў звар'яцелым сьвеце. У фокусе яе ўвагі - гандляр наркатой, з-за якога загінуў яе муж і які пастаўляе "траву" яе навучэнцам-школьнікам. Адпомсьціць яна вырашае проста - падкладае бомбу. У выніку тэракту гінуць нявінныя людзі. Настаўніца з пакаянкай прыходзіць у паліцыю. Падаецца, далей усё павінна быць проста: суд - турма - эшафот - сьмерць... Але напраўду ўсе тыя няшчасьці вялі толькі да шчасьця... на нябёсах. Закаханы ў Філіпу малады карабінэр (Джавані Рыбізі) ладзіць ёй простыя - да геніяльнасьці - уцёкі з-пад шыбеніцы. У выніку абодва ператвараюцца ў анёлаў-андроідаў, а потым наагул адлятаюць у Вырай на гелікоптэры. Рамантыка!






## ФРАНКА БЯЗ ТОМА

Тым часам Франка прадала кватэру ў Бэрліне і пераехала ў Галівуд. Зараз кіношная маці-самотніца, студэнтка-патолягаанатам, журналістка, паліцэйскі, гандлярка гамбургерамі і г.д. прымярае на сябе іншую ролю - пераборлівай галівудзкай супэрзоркі. Пасьля партыі другога пляну ў амэрыканскім "Какаіне" (Blow, 2001) яна зьнялася ў "Тоеснасьці Борна" (The Borne Identity, 2002), што стаўся першым галівудзкім гітом эўрапейскай акторкі.

**"Тоеснасьць Борна" (The Bourne Identity, 2002, рэж. - Дуг Лімэн)**

Джэйсан Борн (Мэт Дайман) пазьбег сьмерці, але згубіў памяць.



Усё, што ў яго ёсьць - толькі што атрыманае назад жыцьцё, ногі-рукі ды адрас швэйцарскага банку, дзе ён знаходзіць пачак баксаў, некалькі дзясяткаў пашпартоў, пісталет і шмат іншых карысных рэчаў. З пашпартоў ён нарэшце даведваецца сваё імя і пачынае здагадвацца пра прафэсію... Раптам заўважае, што за ім назіраюць, і - вуаля! - дзея пачынаецца. Праз прыгоды, перасьледы, шматлікія забойствы ды іншыя шпіёнскія жарсьці Борн імкнецца сябе "ідэнтыфікаваць". Ва ўсім гэтым яму дапамагае Мары (Франка Патэнтэ) - ня вельмі прыгожая, але верная дзяўчына, якая выпадкова апынулася на яго шляху.




*P.S. Вялікі дзякуй сп. Максіму Жбанкову.*

## ТОМ



робіць са сваім асабістым жыцьцём тое ж, што і са структурай сваіх фільмаў - пералівае ўсё дагары нагамі і хоча паглядзець, што з гэтага атрымаецца.

Праект "Рай" стаўся першым і пакуль апошнім пасьля расстаньня з Франкай Патэнтэ. Чым зараз займаецца кліпмэйкер выпадковасьцяў, сказаць цяжка. Па адных дадзеных, робіць новы праект з надзвычай арыгінальнай назвай True ("Праўда"), па другіх - творчы крызыс...

## ФРАНКА -



цяпер ужо ня любая ды пеставаная зорка аднаго рэжысэра. На сёньняшні дзень, па ўласным прызнаньні, яе дом - гэта 3 чамаданы і 2 дарожныя сумкі. Новая казка на стары матыў з галоўным хобітам плянэты Элайя Вудам (Фрода з "Уладара пярсьцёнкаў") толькі пачынаецца. "Я ўспрымаю жыцьцё на чамаданах як свабоду", - кажа Франка Патэнтэ, самастойна ступаючы па вугольлях кінабізнэсу і асабістага жыцьця.

# БЯЗЬ МЕЖАЎ
# NO BORDERS

фота і тэкст: Benjamin Gaylord

Хто сказаў, што на фатаграфіі можна глядзець толькі з аднаго боку? Памятай, што часьцей за ўсё мы самі абмяжоўваем сябе болей, чымся нехта іншы.
Вітаю цябе ў сьвеце ценяў і адлюстраваньняў. Тут шмат новых правілаў. Вобраз можа быць скажоным, і ім можна маніпуляваць. Банальнае становіцца натхняльным. Дзьверы ў паралельныя сусьветы, што вакол нас, чакаюць, каб мы іх адчынілі. Мроі могуць стаць рэальнасьцю, а рэальнасьць выдае на мрою.
Цені і адлюстраваньні - шматслойныя, крохкія ды няўстойлівыя. Яны не існуюць асобна, як не існуе сучаснасьць безь мінулага, як і гэты момант зьвязаны з будучым. Вер сваім вачам, давярай сваёй інтуіцыі.
Гэтыя фатаздымкі былі зробленыя ў 1999-2002 гг. Яны не падпадалі пад ніякія лічбавыя маніпуляцыі.
Гэты праект пастаянна разьвіваецца, і твае інтэрпрэтацыі зьяўляюцца яго часткай. Чакаю на твае камэнтары:
**benjourney@yahoo.com**.



**Адчыненая дыяфрагма (The Opening).** Washington, D.C., USA
Здымак самога працэсу фатаграфаваньня - гэта замарожаная вечнасьць. Выйсьце ў іншую прастору і час.



**Няпэўны час (Uncertain Times).** Miensk, Belarus
Час на ўсё накладае свой адбітак. Нават калі фатаздымак і фіксуе пэўны момант, нашыя адносіны да яго пастаянна мяняюцца.



**Аб'ектыўнасьць (Objectivity).** Amsterdam, Netherlands
Зайздрасьць? Нявіннае адлюстраваньне гісторыі?

**Суб'ектыўнасьць (Subjectivity).** Amsterdam, Netherlands
За кожным фатаздымкам стаіць свая гісторыя.



NO BORDERS
БЯЗЬ МЕЖАЎ



**Болей зімы, чым лета (More Winter than Summer).** Miensk, Belarus
Якая пара году на гэтым фота? Адлюстраванне часам можа даць болей інфармацыі, чым арыгінал.

# БЯЗЬ МЕЖАЎ
# NO BORDERS



**Нябёсы пад нагамі #1 (The Sky Beneath Our Feet #1).** Kiev, Ukraine
Першы здымак з гэтай серыі. Верх ёсьць-нізам. Дзе мы? Камяні падаюць зь нябёсаў? Ці гэта нашыя мары наблізіліся да рэальнасьці?



**Адпаліраванае небам (Polished by the Sky).** Miensk, Belarus
Як кажуць амэрыканцы, чысьціня набліжае да боскасьці.





**Учора (Yesterday).** Amsterdam, Netherlands
Ілюзія настолькі моцная, наколькі ты ў яе верыш.



**Ліст Алу Гору (Letter to Al Gore).** Washington, D.C., USA
Колькі год таму Ал Гор сказаў, што ён вынайшаў Інтэрнэт. Ключ да назвы адшукай сам.



**Рыса?.. (Straight?..).** Boston, USA
У чужых вачах мы таксама выглядаем інакш.



Вальтэр казаў, што праца пазбаўляе нас трох вялікіх ліхаў: нуды, распусты і галечы. Што да апошняга стану, дык ён вельмі добра знаёмы студэнту. Калі не разьлічваць на бацькоў і жыць адной стыпэндыяй, пэрспэктывы скончыць жыцьцё ў раёне 100 год фактычна зводзяцца да нуля. Але выйсьце ёсьць - трэба шукаць сабе працу, дакладней, падпрацоўку.

# с т у д э н ц к і ARBEIT

в е с е л а і н я т а н н а

тэкст: Алёна Шалаева

## ПРАЦА ТАННА І СУРОВА

Шырока вядома, што нашая дзяржава клапоціцца пра ўсіх... ОК, робіць выгляд, што клапоціцца. Атрымліваецца ў яе ці не - гэта іншае пытаньне. Калі вы ўпэўненыя ў дзяржаве, то вам - у Моладзевую сацыяльную службу (Казлова, 7 у Менску), дзе знаходзіцца Студэнцкае бюро паслугаў. Любому, хто рызыкне завітаць сюды, паабяцаюць знайсьці падпрацоўку з улікам іх студэнцкага жыцьця. А менавіта: рэпэтытарскія паслугі, пагрузаразгрузачныя і сельскагаспадарчыя работы, кампутарны набор, прыборка кватэраў і г.д.
Усё нібыта добра да таго часу, як справа даходзіць да канкрэтнай дапамогі: зьвесткі пра цябе (ВНУ, курс, зручны для працы час) заносяцца ў базу дадзеных, якая фармуецца ўвесну і ўвосень. Абяцаюць патэлефанаваць. Гэта калі будуць вакансіі. Калі такіх ня будзе, табе могуць параіць прыйсьці праз колькі месяцаў. І ўсё: у большасьці выпадкаў ніякага званка няма - прынамсі, пра гэта распавядалі людзі, што зьвярталіся ў МСС.
Мы мелі нахабства папрасіць даць хоць нейкія дадзеныя па тым, колькі чалавек знайшлі сабе працу, колькі - не, але ў адказ прагучала штосьці кшталту банальнага "няма". Адсюль пытаньне: што, Бюро паслугаў не валодае нават элемэнтарнай статыстыкай - база дадзеных ёсьць, а ўліку няма? Тады высновы напрошваюцца самі сабой: альбо ў гэтай установе працуюць людзі, якім "па барабане" што студэнцкая, што ўласная праца - "установа дзяржаўная, дзенег і так дадут", - альбо любая інфармацыя настолькі канфідэнцыйная, што гамон...

## ПРАЦА ТАКАЯ, ЯКАЯ ТРЭБА

Зрэшты, ня надта і хацелася: ёсьць больш аптымальныя шляхі здабыць заробак у канкурэнтнай барацьбе. Варта актыўна заняцца маніторынгам прапановаў "дзе і як можна падзарабіць": праз газэты кшталту "Из рук в руки", "Работа для вас" і да т.п., альбо сярод сваякоў і знаёмых. Тое, што вы прачытаеце ўнізе - вынік якраз такіх дасьледаваньняў.



### 1. Бэйбісітэр (aka нянька)

Заробак: 0,7-1,5 у.а. за гадзіну.
Усім, хто адважыўся заняцца інтэнсіўным спальваньнем нэрвовых клетак у юнацкім узросьце, спэцыялісты раяць быць гатовымі да таго, што дзеці - гэта абсалютна нявывучаны кляс прыматаў, а таксама да таго, што дадзеная падпрацоўка можа ператварыцца ў асноўны род заняткаў. Так бы мовіць, "ад няньки да гувэрнанткі". Апошняя, мусім нагадаць, - гэта фэміна з вышэйшай адукацыяй, валоданьнем некалькімі замежнымі мовамі і бездакорнымі мэдыка-тэхнічнымі характарыстыкамі. Такія гувэрнанткі - на вагу золата (эквівалентныя ў іх і заробкі): працуюць выключна па рэкамэндацыях, што дае ім права выхаду на беларускі "сярэдні кляс". Пэўны працэнт гувэрнантак пачынаў менавіта з бэйбісітэрства.



### 2. Натуршчык/ца

Заробак: у сярэднім 30-60.000 рублёў, магчымыя варыянты.
Спосаб зарабіць за "проста пасядзець/паляжаць".
Нягледзячы на тое, што ў масавай сьвядомасьці натуршчык/ца - сынонім підара і шлюхі адпаведна, многія на гэта не зважаюць і спрабуюць "устроіцца" - афіцыйна альбо неафіцыйна. Першы варыянт - праз аддзел кадраў мастацкіх вучэльняў і ВНУ, дзе цябе афармляюць гэтым самым словам. Заробак атрымліваеш у адной касе з выкладчыкам, а "піша" цябе група зь 5-7 студэнтаў. Неафіцыйны ўзьнікае тады, калі мастак апантаны тваёй натурай і дамаўляецца пра індывідуальныя сэансы. Вось тут заробак залежыць ад склаўшыхся адносінаў і суправаджальных абставінаў. Наколькі ўбогі рынак прапановаў (а гэта дазваляе пазьбягаць канкурэнцыі і ставіць перад "начальствам" пытаньне пра падвышэньне заробку) сьведчыць наступны факт. Нейк з-за дэфіцыту нармальнай натуры перад студэнтамі "паўстала" нешта незразумелае, але вельмі падобнае да звычайнага бамжа. Ня вытрымаўшы спэцыфічнага паху, студэнты кінуліся прэч са студыі і ў тэрміновым парадку адшукалі "натуры" сярод сяброў і знаёмых. То бок сярод нас з вамі.



### 3. Налепшчык

Праміні Божа, ніякіх палітычных улётак!
Пра такую падпрацоўку я даведалася ад свайго знаёмага... у прыбіральні (як я трапіла ў мужчынскую, хай гэта застанецца маёй тайнай), сьцены і дзьверы кабінак у якой былі аблепленыя этыкеткамі ад тонікаў, шампуняў, крэмаў і г.д.
Высьветлілася, што хлопец падпрацоўвае на "Беліце", дзе прыклейвае гэтыя налепкі на бутэлечкі з рознымі касмэтычнымі сродкамі. Праца, натуральна, мэханічная і аднастайная, але нескладаная.
Заробак: 60-100.000 у залежнасьці ад колькасьці працоўных гадзінаў.



### 4. Кветачнік

Праца заключаецца ў тым, што падпрацоўшчык выносіць з сутарэньняў кветкі для продажу, а ўвечары заносіць іх назад.
Са станоўчых фактараў трэба адзначыць тое, што на працу ідзе няшмат часу: адна гадзіна з раніцы і адна ўвечары. Але "раніца" - гэта з 6 да 7, а "вечар" - з 22 да 23.
Заробак: штодзённы % ад продажу кветак - ад 3 да 10.000, у сьвяты - больш.



### 5. Кур'ер

Ідэальны варыянт такой ня самай лёгкай працы ўзьнікае тады, калі ў цябе ёсьць мабіла і машына. Але зразумела - калі маеш такія атрыбуты "раскошы", то кур'ерам працаваць ня пойдзеш. Таму на гэтай адмыслова студэнцкай пасадзе застаецца спадзявацца толькі на ўласныя ногі.
Заробак: ад 40.000 і больш - залежыць ад таго, куды пашлюць і што трэба несьці.



### 6. Праца ва ўнівэрсытэце (лябарант, вахцёр, гардэробшчык, ахоўнік)

Заробак: ад 18 да 40-60.000.
Самы вялікі пазытыў - ты заўсёды на вачах у выкладчыкаў, маеш зь імі пастаянны кантакт, і цябе пачынаюць успрымаць як свайго. То бок свае людзі ў чужой камандзе. Са студэнтамі звычайна таксама ўсё без праблемаў: у тэхнічных ВНУ і на розных фіз-, маткатэдрах лябаранты, напрыклад, "падганяюць" студэнтам адказы лябараторных. Апошнія ў сваю чаргу не забываюць аддзячыць, і ня толькі словамі...



### 7. Праца ў Макдоналдс

Заробак: 1080-1200 руб. за гадзіну. Атрымліваецца прыкладна 140.000 за 130 працоўных гадзінаў.
Ніколі б не падумала, што ў нас магчымы варыянт "Рабоў Майкрасофту", але ў гэтым давялося ўпэўніцца, калі ў нэце натыкнулася на сайт *http://akavita.by/bin/to-phref.pl?id=3126&url=http://kompaktor.narod.ru.* *Ніякіх камэнтараў.*

## СТУДЭНЦТВА І НАЧАЛЬСТВА

Праблема, як выкладчык мусіць ставіцца да падпрацовак студэнта - адвечная. Выкладчык Аляксандар Канстанцінавіч з Эканамічнага ўнівэрсытэту ставіцца да студэнцкіх падпрацовак з разуменьнем (матэрыяльныя цяжкасьці, жаданьне пажыць ня толькі на стыпуху і інш.) - і ў гэтым ён не арыгінальны. Іншая справа, у якім тоне адбываецца дыялёг паміж выкладчыкам і студэнтам на тым жа іспыце, калі апошняга "валяць" толькі за тое, што ён не хадзіў на лекцыі ці на сэмінары, а працаваў у гэты час. "Каб атрымаць дасканалую адукацыю, трэба займацца толькі вучобай, - кажа Аляксандар Канстанцінавіч. - Студэнт павінен напачатку вызначыцца, што для яго больш важна: адукацыя ці грошы, а потым паступаць у ВНУ. Але ж усе мы людзі..."
Індульгенцыяй становіцца вашая праца, калі яна адпавядае спэцыяльнасьці. Зрэшты, ніхто не перашкаджае сказаць свайму выкладчыку тое, што ён хоча пачуць - рэдка хто з дэканату наважваецца правяраць дэзу. Сяргей К., студэнт-філёляг з Пэдагагічнага, які ня першы год і не за "дзякуй" працуе дагэтуль у адной зь менскіх фірмаў, стараўся не афішаваць, дзе прападае амаль увесь час, але пасьля таго, як чарговы раз спазьніўся на сэмінар па расейскай мове і "предстал пред ясные очи" выкладчыцы, вымушаны быў сказаць, што працуе. Ці то нездаровы колер твару, ці нешта іншае ўпэўніла выкладчыцу ў тым, што чувак працуе ў... школе. Гэтай думкай яна тут жа падзялілася з усёй групай і самім студэнтам. Той асабліва не супраціўляўся - у выніку на сэмінары амаль не зьяўляўся, а на іспыце, агучыўшы папярэдне прыдуманую гісторыю пра цяжкія будні настаўнікаў, атрымаў законнае "выдатна".
А магло ж і не пашанцаваць...
Працадаўцы наадварот задаволеныя студэнтамі, бо тыя ў дылеме "вучоба/праца" перавагу аддаюць апошняй. Агульнавядома, што студыёзусы непераборлівыя, усюдыпасьпяльныя і досыць адказныя. Гісторыя з жыцьця: студэнтка трэцяга курсу Мэдунівэрсытэту падпрацоўвала мэдсястрой у адной з бальніц. Прыходзіць яна неяк на начное дзяжурства, а ёй кажуць: "Прымай, падруга, баявое хрышчэньне", - і пад белы ручанькі заводзяць у палату, дзе пры сьмерці ляжыць дзед. "Вось, глядзі яго, бо ўночы, хутчэй за ўсё, дасца". Чаго каштавала тое дзяжурства дзяўчыне, ведае толькі яна сама, але факт застаецца фактам: калі раніцай прыйшла зьменшчыца, а за ёй галоўурач, то мусілі ці то са зьдзіўленьнем, ці то з зайздрасьцю канстатаваць: "Нефіга сабе!" Пасьля гарачай ночкі зь мэдсястрычкай, якая ні на сэкунду не адыходзіла ад дзядулі, той ачомаўся, а праз колькі дзён выпісаўся.

## ПРАЦА "Ў ЗАКОНЕ"

Цікава, што ў ЗША студэнт можа легальна падпрацоўваць толькі на тэрыторыі студэнцкага гарадку і толькі лімітаваную колькасьць гадзінаў, - Study first of all! У нашым заканадаўстве гэтаму пытаньню не прысьвечана ніводнага артыкула. Ня мае наш студэнт ні працоўных правоў, ні працоўных абавязкаў, а калі так, дык падпрацоўваць можна спакойна і колькі заўгодна. Нягледзячы на блытаніну, пару цікавых момантаў у Працоўным кодэксе адшукаць удалося.

**1.** Калі падчас вучобы ты, малады чалавек без адукацыі і без дыплёма, падпрацоўваеш па сваёй будучай спэцыяльнасьці, то на разьмеркаваньні дыхай спакойна - твая падпрацоўка на ім ніякім чынам не адаб'ецца: пасьля 5 курсу ты, як і ўсе, мусіш адпрацаваць 2 гады, ні больш, ні менш. Таму расслабся: падпрацоўвай, атрымлівай задавальненьне ад матэрыяльных раскладак і ад досьведу, які набываеш.

**2.** Калі цябе прымаюць на працу, уважліва чытай усе паперкі і зьвяртай увагу на ўсе ўмовы. Праца студэнта - не сумяшчальніцтва, а таму працоўную кніжку табе выдаць абавязаныя. Дастаткова працаваць на чвэрць стаўкі (а можаш і на поўную), каб табе ішоў стаж. Што апошняе надзвычай важна, усе згадваюць толькі перад пэнсіяй. Хаця ўсім студэнтам прасьцей - калі ты толькі вучысься і не працуеш, праведзеныя ў ВНУ 5 год ужо ідуць у стаж.



# Грошы ў касы, культуру ў масы!

N.R.M.

Стаялі неяк міністры и думалі пра народ, пра дзяржаву, хто вінаваты і што рабіць...
Усе нешта будуюць. Новыя рускія - замкі, прэзыдэнты - лядовыя палацы. Просты народ - дачы сабе паціху майструе...
Давайце, можа, і мы нешта сабе пабудуем. Каб народ нас навечна запомніў. Каб жыць у вяках.
Штосьці тыпу вось той гаргары...
1 2 3 4 5 6 7 8 9 10
ЭЎРЫКА!
Вось будуем мы, будуем... А што канкрэтна?
Ну-у... Нейкі дом, напэўна...
Гэта супэрідэя!
О! Культура! Вось чаго нам бракуе. Дом культуры!
А чаго гэта вы, Піт, матам лаецеся, як малы дзіцёнак?
N.R.M. Dom kultury
Культур-мультур у вас нізкаваты. Павышаць трэба!
А вось, б... на..., што за дом? Дом быту, ці ...,б... на ..., дом састарэлых? А можа, ... ту Люсю, публічны дом?

працяг будзе...

# МАСАЖ МАСАЖ МАСАЖ І МУРАКАМІ

тэкст: zabavka

*"Нашае полавае жыцьцё - як бы гэта лепей выразіцца? - карэнным чынам адрозьніваецца ад полавага жыцьця кітоў. Мы не кіты - вось адзін з галоўных тэзісаў майго полавага жыцьця". (Харукі Муракамі, "Паляваньне на авечак")*

Ці падабаецца вам масаж? Калі ВАМ робяць масаж? Дакранаюцца да аголенай скуры моцнымі і адначасова пяшчотнымі пальцамі? Мне падаецца, сьпіна - адно з самых безабаронных і чульлівых месцаў. А таму адно з самых эратычных. Зь дзяцінства мяне зачароўвалі сцэны зь фільмаў, дзе адкрыта дэманстравалася гэтая частка цела. Ня згодныя? А калі вам апошні раз рабілі масаж? Ня той, які ад скаліёзу, а той, які для задавальненьня?

Мне прыйшла ў галаву нечаканая думка: мужчынаў можна падзяліць на тых, хто любіць і хто ня любіць рабіць масаж. Можа, гэта і не датычыцца іх усіх. Але тых, якія некаторы час былі маімі мужчынамі (прынамсі, тых, каго я нейкі час лічыла выключна сваімі), - безумоўна.

"Вядома, калі сур'ёзна разабрацца, спала яна зусім ня з кім папала. Не сумняюся, што для гэтага былі нейкія свае, нікому не вядомыя крытэрыі". (*Харукі Муракамі, "Паляваньне на авечак"*)

## ТОЙ, ХТО НЕ

Як правіла, тыя, хто спасылаецца на сваё няўменьне, нежаданьне, занятасьць, стомленасьць альбо відавочны антыпрагматызм гэтага занятку, аказваюцца не найлепшымі партнэрамі. Звычайна гэта эгаістычныя маленькія дзеці, якія не прывыклі цярпець нязручнасьці нават у дробязях. Яны любяць, калі ім робяць мінэт і гатуюць смачную вячэру. І гэта ўсё. Ім амаль заўсёды напляваць як на вашую стомленую сьпіну, так і на вашыя сэксуальныя фантазіі. Ваш аргазм для іх - хутчэй прыкмета ўласнай мужчынскасьці, чымся сапраўднае суперажываньне.

"Спаць з жанчынай... Часам я гляджу на гэта як на нешта большае і сур'ёзнае, а бывае - наадварот, ня бачу ў гэтым нічога асаблівага. Бывае сэкс як тэрапія для аднаўленьня сілаў, а бывае сэкс ад няма чаго рабіць". (*Харукі Муракамі, "Паляваньне на авечак"*)

Як правіла, гэтыя мужчыны лічаць сябе сэнтымэнтальнымі й ранімымі. Але ў большасьці сваёй яны пры гэтым крайне цынічныя, грубыя, часта паводзяць сябе па-хамску, аддаюць перавагу тлустай ежы і квік-сэксу. Пры гэтым большасьць зь іх, як ні дзіўна, належыць да касты інтэлектуалаў. Яны выглядаюць гэткімі начытанымі разумнікамі, эрудытамі і проста мілымі асобамі. Тымі выбітнымі якасьцямі яны і бяруць у палон сваіх няшчасных ахвяраў, сустрэўшы іх у адной з кампаніяў (душою якіх яны звычайна зьяўляюцца). Зрэшты, т.зв. "ахвяры" ня надта і супраціўляюцца, а часам і самі радыя аддацца на міласьць пераможцы.

"Мы ўтрох пілі каву, гулялі вечарамі па полі для гольфу, шукалі там згубленыя мячыкі, заігрывалі адзін з адным, лежачы ў ложку, - і так кожны дзень. Цэнтральным жа нумарам было чытаньне газэтаў. Штодня я адводзіў час на тое, каб данесьці да іх навіны. Іхная цямнота была проста жахлівай". (*Харукі Муракамі, "Пінбол-1973"*)

...Вы не дачакаецеся ад іх кветак, апроч як на дзень народзінаў, дый то бліжэй да заканчэньня. І вам давядзецца загадзя адрэпэтаваць бурнае захапленьне прынесеным букетам, хаця цалкам верагодна, што гэта будуць кветкі, якія вы арганічна не пераварваеце. На радасныя сюрпрызы таксама давядзецца забыцца - мужчыны гэтай катэгорыі ставяцца да іх крайне абыякава, а часам нават агрэсіўна. Аднак любы прыемны сюрпрыз з вашага боку будзе сустрэты даволі прыхільна.

Што яшчэ можна сказаць пра іх - усіх тых, хто лічыць масаж ня вартым часу заняткам? Паспрабую згадаць што-небудзь прыемнае - нешта такое, што зрабіла б іх больш прывабнымі на фоне сказанага вышэй... Вось! Найчасьцей яны цікавыя суразмоўцы, прычым іх хапае на даволі вялікую колькасьць гадзінаў і тэмаў. Па прашэсьці некаторага часу яны, вядома, пачынаюць паўтарацца, але робяць гэта з такім выглядам, нібыта ўпершыню паведамляюць вам нешта надзвычай важнае. Пры гэтым вашая рэакцыя a priori павінна ўключаць у сябе як мага шырэй расплюшчаныя вочы, адкрыты рот і аглушальны лямант: "О, мілы! Якая ж я ў цябе тупая!"

Што праўда, калі ў іх добры настрой, яны даволі рамантычныя, могуць выгульваць вас у парку, зьвяртаючы ўвагу на колер неба і графіку галінак. Зь імі можа быць надзвычай весела, асабліва ў першы час, і справы ў іх ідуць добра. Яны ня любяць цалавацца і не адчуваюць патрэбы падаваць вам руку пры выхадзе з транспарту - падкрэсьліваюць тым самым, што падзяляюць вашыя фэміністычныя погляды. Але гэта адзіны выпадак, калі яны згадваюць пра жаночыя правы.

Жанчына, якая вырашыць застацца з такім мужчынам, павінна быць у першую чаргу мужнай, гатовай перанесьці ўсе свае мацярынскія інстынкты на адзіны варты іх аб'ект. Ёй трэба будзе мець запас цярпеньня, вытрымкі і, нарэшце, мудрасьці. У тым ліку і для таго, каб прыняць правільнае рашэньне, калі яна зьбярэцца сыходзіць да мужчыны, якому падабаецца рабіць масаж.

"Мне падалося нават, нібы ўсе свае адбіткі пальцаў яна забрала з сабой". (*Харукі Муракамі, "Паляваньне на авечак"*)

## ТОЙ, ХТО

Гэтыя мужчыны зазвычай больш "простыя" і, па шчырасьці, зорак зь неба не хапаюць. Звычайна яны апантана працуюць, каб забясьпечыць сябе, сваю жанчыну, а ў пэрспэктыве і сям'ю. Найчасьцей гэта аднaлюбы, хаця зрэдку і выглядаюць крыху "ветрагонамі". Ім падабаюцца доўгія заняткі сэксам з зацяглымі прэлюдыямі. Яны заяўляюць, што аддаюць перавагу тактыльнаму досьведу. Калі пытаесься ў іх, што гэта азначае, кажуць: усё тое, што можна пакратаць рукамі. І гэта насамрэч так! Ім падабаюцца ўсе віды і спосабы дотыкаў.

"Я дакрануўся пальцамі да яе валасоў, асьцярожна прыбраў іх убок - і кончыкам языка дакрануўся да яе вуха". (*Харукі Муракамі, "Паляваньне на авечак"*)

Таму для іх важна, што на вас апранута, хоць яны гэтага і не паказваюць. Пажадана, каб гэта было нешта ўтульнае і прыемнае на вобмацак: улетку - нешта паветрана-пяшчотнае, узімку - мяккае і пухнатае. І ніякага капрону ды бліскучай скуры! Яны часьцей за ўсё ня вельмі добрыя суразмоўцы, але ім падабаецца слухаць вас, якую б несусьветную лухту вы ня несьлі.

"Па-мойму, ты заўсёды добра прымала тыя рэчы, якія я ня ўмеў як сьлед патлумачыць. Вось толькі чым лепей ты разумела мяне, тым горш у мяне атрымлівалася выражаць свае пачуцьці словамі. Відаць, тут у мяне ад нараджэньня была нейкая хіба". (*Харукі Муракамі, "Паляваньне на авечак"*)

Яны любяць усьміхацца, хадзіць у кавярні й іншыя забаўляльныя месцы. Ім падабаецца наведваць дыскатэкі і проста танчыць з вамі ў хатняй абстаноўцы - сярод раскіданых рэчаў, запаліўшы ў якасьці адзінай інтымнай прылады маленькую сьвечку. Бо гэта лішняя нагода абняць вас. У іх зусім не выклікаюць раздражненьня вашыя ранішнія сьпевы ў ваннай. Амаль заўсёды яны гатовыя падтрымаць любую вашую авантуру, бо самі ня надта ініцыятыўныя. Часта яны займаюцца спортам ці проста адказна ставяцца да свайго здароўя. Яны ранімыя і крыўдлівыя, але стараюцца не паказваць гэтага. Калі вы захочаце, яны назаўсёды застануцца з вамі. Для таго, каб рабіць вам масаж пасьля цяжкага працоўнага дня, лашчыць вас у душы...

"Пасьля купаньня выцірайце валасы рушніком, расчэсвайце шчоткай і толькі потым сушыце фэнам. Інакш дакладна прастудзіцеся..." (*Харукі Муракамі, "Паляваньне на авечак"*)

"Ён быў лепшы за мяне толькі тым, што ўмеў граць на гітары. Я быў лепшы за яго толькі тым, што ўмеў мыць посуд". (*Харукі Муракамі, "Паляваньне на авечак"*)

...і маўчаць з вамі за ранішняй кавай.

P.S. Пастанова, прынятая ў 2001 г. у Італіі, дазваляе працадаўцам "аднаго разу шлёпаць жаночы пэрсанал па ніжняй частцы торса ў выпадку, калі гэтыя дзеянні выклікаюць парушэньнем працоўнай дысцыпліны, ня робяць жанчыне балюча і ня носяць характару сэксуальнага дамагання".



















## 2/6

**PARTYZONE**
**ТРЭБА РАБІЦЬ!**
[c], [p] БМAgroup сумесна з Prynamsi-records 2002

**Нават ня пахне.**
Мэнтальныя рэцыдывы, якія характарызуюцца маніякальным імкненьнем беларусаў да параўнаньня ўсіх айчынных больш-менш metal-камандаў, што рызыкуюць выкарыстоўваць у сваёй творчасьці тыя ці іншыя найноўшыя дасягненьні навукі і тэхнікі, зь нямецкімі папсавікамі-забаўнікамі Rammstein, выклікаюць, прынамсі, замілаваньне. Дэбютны альбом Partyzone - найлепшае пацьверджаньне.
Вынесеная кімсьці на вокладку цытата, як і пералічэньне "грандыёзных" мерапрыемстваў, у якіх удзельнічалі музыкі, - хутчэй прызнаньне бездапаможнасьці перад рэчаіснасьцю. Сцэнічныя (рэвэранс у бок фронтмэна), як і музычныя (тое самае ў бок саўндпрадусара) выбрыкі - амаль удалы камуфляж таго, што можна назваць metal-травэстыяй у духу расейскіх BoneyNem. Але калі тыя да апошняй крыві пацьвярджаюць слаўныя ідэалы якога-кольвек бахцініста, то нашыя сталі ахвярай прагнага мэнэджмэнту: фатальна няўдалае афармленьне альбому, надзвычай кепскі гук, завышаныя прэтэнзіі - і фантастычнае жаданьне выдаць усё гэта за цукерку. Выхад з такой сытуацыі больш як банальны: пазыцыянаваньне сябе як "каманды, якая ні на што сур'ёзнае (NB!) не прэтэндуе", можа кампэнсаваць Partyzone усялякія адміністрацыйныя дурноты.

## 4/6

**N.R.M.**
**DOM KULTURY**
[c], [p] N.R.M., 2002

**Адвечная песьня. Словы - N.R.M., музыка - народная.**
Два гады, якія мінулі ад "Трох чарапахаў", - відавочна ня час для таго, каб рабіць нейкія глябальныя высновы, але што да лякальных...
Dom Kultury не прапануе нечага прынцыпова новага: вельмі сярэдні, роўны матэрыял, які ўключае 12 кампазыцыяў з тэкстамі на адвечную грамадзка-палітычную тэматыку. Паводле актуальнасьці яны былі запатрабаваныя на добры лад максымум у 2001-м, але крытычны погляд гукарэжысэраў X-Noise Factory ажывіў "Вайну", "Тры чарапахі-2" і інш.
Кампазыцыі ж кшталту "FM" паставілі пытаньне такой папулярнай сярод стомленых айчынным рок-нонканфармізмам сэнтэнцыі - "апошні нарэшце разрадзіўся ўласным гаўнарокам". Абстрагаваўшыся ад прадказальных стылістычных афарбовак, мусім заўважыць, што такое вызначэньне сьведчыць мінімум пра дзьве рэчы: рок нарэшце займеў сваю сталую, а таму кансэрватыўную публіку і, як вынік, уласных ідалаў, ад якіх не патрабуецца ніякіх музычных інавацыяў, апрача ўсімі чаканых, што будуць пэрыядычна (раз на 2-5 год) матэрыялізавацца ў CD-фармаце.
N.R.M., нават (усяго) на крок адыйшоўшы ад папярэдняга альбому, рызыкуе адкрыць "алею рок-зорак", але Dom Kultury такіх намераў усё ж не апраўдвае. Пакуль жа не дзівуйцеся, калі пачуеце, што N.R.M. апапсеў - некаму надта хочацца маліцца на мёртвых герояў.

## 5/6

**GABIN**
**GABIN**
[c], [p] Gabin, 2002

**Рэстаранны фармат музыкі бабылёўскіх бярлогаў.**
Шкада, што гэты гарачы шакаляд дайшоў да нас у застылым пад уплывам беларускага марозу выглядзе. Але як той казаў, цеплыню захавалі рукі.
Так і ня стаўшы нумарам адзін у рэйтынгах менскіх кавярняў і рэстарацыяў, апалягет летняга lounge Gabin узору мінулага году тады ж з вартым увасабленьня на Елісескіх палях трыюмфам прайшоўся па Цэнтральнай і Заходняй Эўропе. Непрыцязальны easy-listening падрыхтаваў італійскі дуэт досыць вядомых на радзіме джазмэна і ды-джэя Макса Батыні і Філіпа Кляры адпаведна і назваў усё гэта ў гонар Жана Габэна. Нацыянальнасьць музыкаў і француская мова ў вакальных партыях большасьці кампазыцыяў - толькі чутны бок праекту. Эфэмэрны, але амаль асязальны - гэта нечаканая для італійцаў лёгкасьць і падкрэсьленая эмацыйная стрыманасьць, якія арганічна сумяшчаюцца з экзатычнай для французаў выверанасьцю і мэлядыйнай напорыстасьцю. Джазавыя хады толькі падкрэсьліваюць лёгкасьць, што струменіцца з сэмплавых кактэйляў і вакальных партыяў.
Батыні і Кляры ўпарта адхрышчваюцца ад таго, што іх музыка - ідэальная для рэстарацыяў і адкрытых кафэшак, але гэта праўда: Gabin - як модны рэцэпт прыгатаваньня халоднай гарбаты, то бок як прадукт уласных жаданьняў музыкаў - ужо ў наступным сэзоне можа ператварыцца ў нешта іншае. Шукайце камфортныя фатэлі на chill out.

## 5/6

**CONJURE**
**CONJURE ONE**
[c], [p] Netwerk Productions, 2002

**Нотны стан па мультыкультуралізме.**
Захоплены асноўнымі ідэямі сучаснай цывілізацыі, а па вялікім рахунку - і сам актыўны носьбіт такіх, Райс Фулбэр зрабіў свой першы сольны альбом добрым мэтадычным матэрыялам для заняткаў па клясычнай антрапалёгіі.
Па словах аўтара, "Conjure - гэта ambient, эпічная музыка, якая мае поп-структуру", - і ня варта пераконваць сябе ў адваротным. Канадзкі абарыген здолеў сумясьціць асноўныя матывы і настроі Міжземнамор'я і ўсходняй музыкі, акаймаваць гіпнатычным вакалам Роэ, ізраільцянкі Chemda, аргентынкі Marie-Claire D'Ubaldo і амэрыканкі Melanie Garside - і пасьпяхова прадаць Netwerk Prod.
Непадрыхтаваным і скептычна настроеным ня варта страшыцца "Conjure one": Фулбэр не пайшоў па шляху Гэбрыэла і стварыў вельмі генічны альбом - як для электроншчыкаў, так і для ф'южн-нацыянальна арыентаваных. Апошнія атрымаюць асалоду ад багатых на вобразы сольных партыяў (тут уплывы заўжды актуальных туркаў, альбанцаў, лібанцаў, кіпрыётаў і нават ірляндцаў - Tears from the Moon), электрафілы мусяць зацікавіцца хаця б прадусарынгам хаўс-маэстра Junkie XL (Tidal pool і Sleep), а ў беларускім рэлізе - і двума някепскімі міксамі.




# iPoint

**Сёньня раскошу катэгарычна НЕ РАЗУМЕЦЬ прынцып працы электроннай пошты ("У мяне e-mail у Баранавічах") альбо якога-кольвек гугла можа дазволіць сабе хіба што мая бабуля. Але яна нарадзілася год за -наццаць да стварэньня першага электронна-вылічальнага агрэгату. Можна, вядома, строіць зь сябе прынцыповага працаўніка навукова-тэхнічнага прагрэсу і спрабаваць жыць па прынцыпе "пачуцьцё рэальнасьці заўсёды з табой". Але гэта не актуальна.**

Канкрэтным жа "ю-зьвярам" даводзіцца пакутаваць ад навязьлівай патрэбы тэрмінова праглядзець е-мыл, "завіснуць" на любімым ххх-сайце або абмеркаваць на tut.by актуальную тэму "Да Здравствует Бессмертное Тело Гениального Ленина!"

З гледзішча прасунутасьці ў інфармацыйныя тэхналёгіі насельніцтва падзяляецца на тых, у каго кампутар зь інтэрнэтам:

- ёсьць;
- няма, але хутка будзе;
- няма, але ведаю, дзе ўзяць;
- няма і не прадбачыцца;
- няма, а навошта? (А-ей! Сорам жа ж які!)

Зь першымі ўсё зразумела. Для астатніх надзённым застаецца пытаньне: што рабіць, калі няма, але надта сьвярбіць? Хаджэньню "па людзях" (сябры, татава праца etc.) ёсьць альтэрнатыва - накіраваць свой апорна-рухальны апарат у інтэрнэт-клюб. Які? Вось хаця б у **iPOINT**, што месьціцца на вуліцы **Румянцава, 15** (раён ст.м. "Плошча Перамогі", недалёка ад лінгвістычнага - наяўнасьць студэнтаў-ін'язаўцаў гарантаваная). **iPOINT** працуе з 8 да 22 штодня (тэлефон для даведак: **233-97-25**).

## ЧАМУ МЕНАВІТА?

- рэзонна запытаеш ты. Зараз зразумееш.

Па-першае, клюб мае адмыслова вылучаную лінію, што азначае **ХУТКАСЬЦЬ**, а не нудотнае чаканьне ля манітора, якое паступова перарастае ў нэрвовае пастукваньне пальцамі па стале, а потым пераходзіць у нецэнзурныя пагрозы надаць кампутару першасны выгляд - горкі мэталічнага лому. А новая тэхніка проста абавязаная забясьпечыць **ЯКАСЬЦЬ**.

Па-другое, **УТУЛЬНАСЬЦЬ**. У клюбе на дадзены момант сем кампутараў. Таму калі ты не калектывіст, можна скарыстацца ўнікальнай магчымасьцю папрацаваць у цішыні і спакоі. Ніякіх дзетак-"кветак жыцьця", якія пад віск і енкі распраўляюцца з чарговым Quake-монстрам. Ніякай надрыўнай (і, між іншым, шкоднай для страўніка) музыкі ў стылі "Руки вверх". Для поўнай ілюзіі хатняй атмасфэры не хапае толькі пункту пракату мяккіх тапак у выглядзе плюшавых сабачак).

Па-трэцяе, **АБСЛУГОЎВАНЬНЕ**. Тут ты не рызыкуеш нарвацца на soviet service ПКК (пунктаў калектыўнага карыстаньня) пры поштах, дзе ў якасьці памагатых фігуруюць дамы нявызначанага ўзросту з кіслымі мінамі і дзяжурнай фразай: "Чаго вам усім ад мяне трэба?" Добразычлівыя і сымпатычныя адміністратары **iPOINT** заўсёды дапамогуць, калі што-небудзь не атрымліваецца, і навучаць тых, хто не ў кантэксьце, куды клікнуць, "каб усё зьявілася". Дарэчы, у хуткім часе пры клюбе плянуюць адкрыць кампутарныя курсы. Асартымэнт разнастайны: ад Word і Excel да CorelDraw і Photoshop.

І гэта яшчэ ня ўсё. У **iPOINT** ты знойдзеш фляерсы і запрашэньні на канцэрты, модныя parties, актуальныя прэзэнтацыі, а цяпер - авацыі! - і свой любімы часопіс "CD".

тэкст: DS








Да 100-годзьдзя з дня нараджэньня Натальлі Арсеньневай

## КОНКУРС ІМЯ НАТАЛЬЛІ АРСЕНЬНЕВАЙ

пры падтрымцы Беларускай асацыяцыі журналістаў, газэтаў "Белорусская деловая газета", "Биржа информации", "Витебский курьер", "Вольны час", "Газэта Слонімская", "Інтэкс-прэс", "Молодежный проспект", "Навінкі", "Наша Ніва", "Наша слова", "Новы час", "Рэгіянальная газета", часопісаў "Arche", "Студэнцкая Думка", "Дзеяслоў", "Мясцовы час", інтэрнэт-выданьняў "Літара.net", "Кнігі.com", "Дзед Талаш", "BARCnews.org", "Пагоня.promedia.by"

абвяшчаецца **творчы конкурс для маладых літаратараў**.

Да ўдзелу запрашаюцца творцы **ад 14 да 24 гадоў** (на момант абвяшчэньня конкурсу). Ляўрэаты конкурсу будуць запрошаныя на літаратурны сэмінар і майстар-клясы ў Менск, дзе перад імі выступяць знаныя пісьменьнікі, выкладчыкі ВНУ, вучоныя, барды, рок-сьпевакі, адбудзецца цікавая гутарка пра іх творы і літаратурную дзейнасьць. Прызам для пераможцы конкурсу стане выданьне яго кнігі.

На конкурс прымаюцца літаратурныя творы (вершы, апавяданьні, эсэ, п'есы, сцэнары фільмаў, аўтарскія газэты, літаратурныя інтэрнэт-праекты і г.д.). Для ўдзельнікаў, старэйшых за 19 гадоў, пажадана (але не абавязкова) прадставіць рукапіс кнігі.

Да разгляду будуць прымацца творы, дасланыя (паводле даты на паштовым штэмпэлі або даты адпраўкі электроннага ліста) не пазьней за **15 сакавіка** 2003 г. Падвядзеньне вынікаў першага туру і адбор удзельнікаў сэмінару адбудуцца 25 сакавіка. Літаратурны сэмінар і майстар-клясы пройдуць у Менску напачатку траўня. Іх удзельнікі будуць забясьпечаныя жытлом і харчаваньнем.

**Журы конкурсу:** Міхась Тычына (старшыня), Андрэй Дынько, Ганна Кісьліцына, Міхась Скобла, Андрэй Хадановіч.

Творы дасылайце на адрас:
e-mail: **pen@pen.unibel.by**
Паштовы адрас: **220050 а/с 218, Менск, РГА "Беларускі ПЭН-цэнтар"**
Даведкі праз электронную пошту ці тэлефон **(017) 288-14-61**

